## «Звязда» едзе ў Акцябрскі

**18 і 19 лістапада ў Акцябрскім раёне будзе працаваць «выязная прыёмная» газеты «Звязда», Федэрацыі прафсаюзаў, міністэрстваў жыллёва-камунальнай гаспадаркі, сацыяльнай абароны і аховы здароўя.**

**«Выязная прыёмная» пачне працаваць 18 лістапада ў 15.00 у будынку райвыканкама. У 18.00 пачнецца сустрэча з насельніцтвам у вёсцы Чырвоная Слабада.**

**19 лістапада з 8.30 удзельнікі «выязной прыёмнай» будуць знаходзіцца ў вёсцы Рассвет.**

### ФЕДЭРЫКА МАЕР ВЫКАЗАЎ УДЗЯЧНАСЦЬ

**Генеральны дырэктар ЮНЕСКО Ф. Маер накіраваў у адрас А. Лукашэнкі тэлеграму, у якой выказаў удзячнасць за аказаны яму прыём у час яго нядаўняга візіту ў Мінск.**

У прыватнасці, Ф. Маер адзначыў важнасць, якую прэзідэнт і ўрад Беларусі надаюць паглыбленню сувязяў паміж Рэспублікай Беларусь і ЮНЕСКО. Са свайго боку ён прыкладзе ўсе намаганні для развіцця ўдзелу Беларусі ў праграмах і дзейнасці ЮНЕСКО. Ф. Маер падкрэсліў, што ўжо ў бліжэйшы час Сакратарыят арганізацыі зоймецца прасоўваннем праектаў, звязаных з адукацыяй, культурай свету, дэмакратыяй і правамі чалавека, а таксама культурным турызмам і захаваннем нацыянальнай культурнай спадчыны. Уся дзейнасць, звязаная з чарнобыльскімі наступствамі, па-ранейшаму застаецца прыярытэтнай, і супрацоўнікі ЮНЕСКО будуць у кантакце з адпаведнымі прадстаўнікамі беларускага боку.

**БЕЛТА.**

# БЕЛАРУСЬ ЖАДАЕ ЎСТУПІЦЬ У САВЕТ ЕЎРОПЫ

## У Страсбургу ж цікавяцца магчымасцямі аднаўлення дыялога з нашай краінай

Падчас сустрэчы з намеснікам Старшыні Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Робертам Антрэтэрам беларускі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка заявіў:

— Мы будзем рабіць усё неабходнае для таго, каб наша краіна была прадстаўлена ў Савеце Еўропы як паўнапраўны член.

Такім чынам, упершыню за час пасля рэферэндуму 1996 года, калі пачалося пахаладанне ў адносінах Савета Еўропы і Беларусі, кіраўніцтва нашай дзяржавы заявіла аб жаданні аднавіць працэдуру ўступлення ў гэтую старэйшую еўрапейскую арганізацыю, якая займаецца гуманітарнымі пытаннямі. Пакуль што наша заяўка на прыняцце ў СЕ ляжыць больш чым пяць гадоў без асаблівага руху, у той час як усе нашы суседзі даўно далучыліся да Савета Еўропы і ўдзельнічаюць у ягоных праграмах. А са студзеня 1997 года рашэннем Бюро ПАСЕ наш парламент страціў статус спецыяльна запрашанага ў Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы. Амаль праз два гады гэты ж орган — Бюро ПАСЕ — ініцыяраваў спецыяльную місію ў Беларусь трох парламентарыяў з Германіі і Чэхіі на чале з панам Антрэтэрам з заданнем высветліць, ці не настала ўжо пара аднаўляць дыялог з нашай краінай на афіцыйным узроўні.

— Бюро Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы даручыла мне прыехаць у Беларусь, каб правесці тут перамовы і сустрэчы з мэтай высветліць пытанне: калі магчымы і ці магчымы ўвогуле пачатак дыялога паміж Саветам Еўропы і Рэспублікай Беларусь. Мой пісьмовы даклад Бюро ПАСЕ разгледзіць 17 снежня гэтага года, і ў адпаведнасці з маімі рэкамендацыямі будзе прымацца рашэнне, аднаўляць гэты дыялог ці пакуль устрымацца, — адзначыў Роберт Антрэтэр на прэс-канферэнцыі 6 лістапада.

Акрамя прэзідэнта пан Антрэтэр сустракаўся з кіраўніцтвам абедзвюх палат Нацыянальнага сходу, пракуратуры, Цэнтрвыбаркама, прадстаўнікамі апазіцыйных партый, праваабарончых арганізацый і членамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Ён абмяркоўваў пытанні захавання правоў чалавека, выканання заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі, умовы ўтрымання зняволеных у турмах, праблему пакарання смерцю і інш. Ніякіх канкрэтных ацэнак беларускай рэчаіснасці і ўласнага бачання магчымасцяў аднаўлення дыялога з Беларуссю ён падкрэслена не выказваў. Толькі адказваючы на пытанне, ці няма ў яго ўражання, што беларускае кіраўніцтва вырашыла змяніць сваю палітыку і выйсці з той ізаляцыі, у якой знаходзіцца Беларусь, пан Антрэтэр заўважыў:

— Канкрэтна гаварыць аб гэтым яшчэ нельга. Але пакольку мы сюды прыехалі — значыць размова ідзе пра тое, што мы маем пэўныя спадзяванні ў гэтых адносінах. Калі вы паглядзіце на карту, то пабачыце, што Беларусь у Еўропе ўяўляе адзіную белую пляму. Такая сітуацыя нецярпімая, таму мы спадзяёмся, што рана ці позна яна зменіцца.

Разам з тым пан Антрэтэр прызнаў, што адносіны ПАСЕ да не абранага ўсенародным галасаваннем цяперашняга беларускага парламента не змяніліся, а неафіцыйныя сустрэчы віцэ-прэзідэнта ПАСЕ з яго лідэрамі не азначаюць ягонага прызнання. Але, на яго думку, такія сустрэчы трэба выкарыстоўваць для таго, каб вырашаць пэўныя пытанні.

Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з дэлегацыяй ПАСЕ выказаў сваё перакананне, што «наша дзяржава адпавядае абсалютна ўсім стандартам, што прад'яўляюцца да членаў Савета Еўропы, тым больш, што ў плане дэмакратызму, абароненасці правоў нашых людзей мы не горшыя за тыя дзяржавы, што нядаўна ўступілі ў гэтую ганаровую і вельмі ўплывовую арганізацыю». Адзінае, што патрэбна для прыняцця Беларусі ў Савет Еўропы, на думку А. Лукашэнкі, — неабходнасць Захаду адысці ад палітыкі двайных стандартаў.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

### ЭФЕКТ АД УКАРАНЕННЯ ЭНЕРГАЗБЕРАГАЛЬНЫХ ТЭХНАЛОГІЙ МОЖА БЫЦЬ ЗНАЧНЫМ

Прэм'ер-міністр краіны Сяргей Лінг 6 лістапада зрабіў рабочую паездку па Міншчыне, у час якой ён пракантраляваў, як укараняюцца энергазберагальныя тэхналогіі ў Заслаўі і Аляхновічах.

У Заслаўі кіраўнік урада наведаў шэраг аб'ектаў сацыяльнага прызначэння, пабываў у адным з жылых дамоў. Паводле яго слоў, каб мерапрыемствы па эканоміі вады, энергіі і іншых рэсурсаў актыўна ўкараняліся на ўсёй рэспубліцы, неабходна змяніць псіхалогію насельніцтва. Ад выкарыстання прыбораў, якія кантралююць расход вады і цяпла, кожны жыхар краіны атрымае толькі выгаду, лічыць Сяргей Лінг. У якасці прыкладу ён прывёў вопыт Германіі, дзе ў час нафтавага крызісу за два гады змаглі на 70 працэнтаў зменшыць спажыванне энергетычных рэсурсаў.

У Заслаўі кіраўнік урада азнаёміўся і з работай шэрага гандлёвых кропак. Адказваючы на пытанні пакупнікоў аб павышэнні цэн на харчовыя тавары, ён адзначыў, што больш за ўсё цэны раслі на імпартныя прадукты, у прыватнасці, на алей, пшанічную муку, рыбу, рыс. Сяргей Лінг запэўніў, што дзяржава прымае ўсе магчымыя меры для павышэння жыццёвага ўзроўню людзей.

**Ігар ХОМІЧ, БЕЛТА.**

### Важны крок у накірунку раззбраення

Як паведаміла МЗС краіны, днямі ў Жэневе прадстаўнікі Беларусі, Казахстана, Расіі, ЗША і Украіны падпісалі восем пагадненняў у Спецыяльнай кантрольнай камісіі (СКК).Гэта камісія з'яўляецца форумам для абмеркавання пытанняў па выкананню ўступіўшага ў сілу ў чэрвені 1988 года Дагавора паміж СССР і ЗША аб ліквідацыі імі ракет сярэдняй і меншай далёкасці (Дагавор аб РСМД) і ўзгадненнем мераў павышэння яго жыццяздольнасці і эфектыўнасці.

# ПОШУК ЯШЧЭ НЕ СКОНЧЫЎСЯ...

**Так атрымалася, што галасы мінулай вайны гучалі для яе нашмат даўжэй і мацней, чым для іншых...**

«Без надзеі знайсці людзей, якія ведалі маіх бацькоў, якія з страцілі ў вайну, цяжка жыць на свеце. Чытаю ў газетах паведамленні аб шчаслівых выніках пошукаў, радуюся за незнаёмых людзей, сам не страчваю надзеі, што вы дапаможаце»... Падобныя пісьмы яна атрымлівала дзесяткамі з розных рэспублік Савецкага Саюза. Уважліва чытала, кожны раз спачувала людскому гору, бралася за пошук — справу складаную, нярэдка амаль безнадзейную. Але што былі цяжкасці ў параўнанні са словамі ўдзячнасці, якія ішлі ў рэдакцыю на яе імя. «У чэрвені 1942 года мы рассталіся, а сустрэліся толькі праз трыццаць тры гады дзякуючы вашай газеце...» Дзеля гэтага трэба было працаваць. І яна кожны дзень, прыйшоўшы на працу, адкрывала новыя пісьмы, у якіх зноў — боль ад страты надзея сустрэць аднапалчан, сябровак, якіх лёс раскідаў на сотні і тысячы кіламетраў адно ад аднаго... І зноў з году ў год з'яўлялася ў «Звяздзе» такая доўгачаканая многімі рубрыка: «Чалавек шукае чалавека». А пад матэрыяламі стаяў сціплы подпіс: «С. Пашкевіч». Людзі, звяртаючыся да яе з просьбай ці падзякай у пісьмах, нярэдка нават не здагадваліся, што Пашкевіч — гэта зусім не Сцяпан, а — Соф'я...

Яна прыйшла ў «Звязду» ў далёкім сорак шостым. За плячыма маладой жанчыны быў партызанскі атрад. Пасля вайны паспела папрацаваць. А прыйшоўшы ў аддзел пісьмаў нашай газеты, так і засталася ў ім на сорак гадоў.

«Ідзя займацца пошукам людзей, якія страцілі адно аднаго ў пекле вайны, узнікла ў рэдакцыі гады праз два пасля вызвалення, — успамінае Соф'я Іванаўна. — Я ўзялася за справу з энтузіязмам, але тады нават не думала, што рубрыка будзе карыстацца папулярнасцю і праз дзесяцігоддзі...»

«Ведаеце, якая самая каштоўная ўзнагарода ў маім жыцці была? Вялікая пуховая хустка, якую ў знак удзячнасці прывезла жанчына з Далёкага Усходу — газета дапамагла ёй знайсці пляменніка. Праўда, тая хустка толькі дзень і пабыла: назаўтра, пакуль былі на «лятучцы», нехта яе з кабінета і панёс...»

Нядаўна яе той самы знойдзены пляменнік запрашаў на вяселле. «А я не паехала. Старая ўжо, непрыгожая — чаго ехаць?» Дарэмна, лічым, не паехала. Яна ж для таго чалавека, якому сям'ю знайсці дапамагла, — член гэтай самай сям'і і ёсць. А свае, родныя людзі — яны заўсёды прыгожыя і маладыя...

Усё далей тая вайна. Усё менш застаецца людзей, непасрэдна ёй закранутых. Апошні раз «Чалавек шукае чалавека» Соф'я Іванаўна змясціла на старонках «Звязды» ў 90-м. «Цяпер ужо, пэўна, падобных пісьмаў зусім няма?» — пытаецца яна. Не, зусім няма. Змаўкаюць водгаласкі вайны.

А для яе — ніяк. Зусім нядаўна на хатні адрас атрымала пісьмо з Чырвонага Крыжа. Знайшлі месца пахавання чалавека, які лічыўся прапаўшым без вестак і пра каго пісалі калісьці ў «Звязду» на імя С. Пашкевіч...

Так што, Соф'я Іванаўна, зброю складаць вам яшчэ рана. А раптам знойдзецца яшчэ нехта? Таму — здароўя вам і жыццёвай моцы. Шчыра вам сёння, у дзень вашага 80-годдзя, і жадаем.




**На здымку:** ***Соф'я Іванаўна Пашкевіч разам з іншымі членамі ваенна-патрыятычнага савета «Звязды» (1980 г.).***

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ СТАТУСЕ ДЭПУТАТА ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ, ЧЛЕНА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 8 кастрычніка 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 22 кастрычніка 1998 года*

Гэты Закон вызначае правы і абавязкі дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь (далей адпаведна — дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі), устанаўлівае асноўныя прававыя і сацыяльныя гарантыі ажыццяўлення імі сваіх паўнамоцтваў.

***ГЛАВА 1. Агульныя палажэнні***

**Артыкул 1. Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі**

Дэпутатам Палаты прадстаўнікоў з'яўляецца свабодна выбраны народам прадстаўнік, упаўнаважаны ажыццяўляць заканадаўчую ўладу ў Палаце прадстаўнікоў, прадстаўляць сваіх выбаршчыкаў у дзяржаўных органах, ажыццяўляць іншыя паўнамоцтвы, прадугледжаныя Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і гэтым Законам.

Дэпутатам Палаты прадстаўнікоў можа быць грамадзянін Рэспублікі Беларусь, які дасягнуў 21 года.

Членам Савета Рэспублікі з'яўляецца асоба, надзеленая ва ўстаноўленым законам парадку паўнамоцтвамі па ажыццяўленню заканадаўчай улады ў Савеце Рэспублікі, а таксама іншымі паўнамоцтвамі, прадугледжанымі Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і гэтым Законам.

Членам Савета Рэспублікі можа быць грамадзянін Рэспублікі Беларусь, які дасягнуў 30 гадоў і пражыў на тэрыторыі адпаведнай вобласці, у горадзе Мінску не менш пяці гадоў.

Адна і тая ж асоба не можа адначасова з'яўляцца членам дзвюх палат Парламента. Дэпутат Палаты прадстаўнікоў не можа быць дэпутатам мясцовага Савета дэпутатаў. Член Савета Рэспублікі не можа быць адначасова членам Урада. Не дапускаецца сумяшчэнне абавязкаў дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі з адначасовым заняццем пасады Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ці суддзі.

**Артыкул 2. Удзел дэпутата Палаты прадстаўнікоў у ажыццяўленні дзяржаўнай улады**

Ажыццяўленне Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь (далей — Палата прадстаўнікоў) дзяржаўнай улады ў межах сваіх паўнамоцтваў грунтуецца на актыўным і раўнапраўным удзеле ў яе рабоце кожнага дэпутата.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў прымае ўдзел у разглядзе пытанняў, аднесеных Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь да кампетэнцыі Палаты прадстаўнікоў.

Важнейшым напрамкам дзейнасці дэпутата Палаты прадстаўнікоў з'яўляецца ўдзел у заканатворчым працэсе.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў пры ажыццяўленні сваёй дэпутацкай дзейнасці і выкананні сваіх перадвыбарных праграм у адпаведнасці з Канстытуцыяй і заканадаўствам Рэспублікі Беларусь мае права свабодна выказваць сваю думку і галасаваць, кіруючыся інтарэсамі народа, сваімі перакананнямі і ўлічваючы эканамічныя і сацыяльныя магчымасці дзяржавы.

**Артыкул 3. Удзел члена Савета Рэспублікі ў ажыццяўленні дзяржаўнай улады**

Ажыццяўленне Саветам Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь (далей — Савет Рэспублікі) дзяржаўнай улады ў межах сваіх паўнамоцтваў грунтуецца на актыўным і раўнапраўным удзеле ў рабоце кожнага яго члена.

Член Савета Рэспублікі ўдзельнічае ў разглядзе пытанняў, аднесеных Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь да кампетэнцыі Савета Рэспублікі.

**Артыкул 4. Заканадаўства аб статусе дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Статус дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі вызначаецца Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і гэтым Законам. Асобныя пытанні іх дзейнасці могуць рэгулявацца іншымі актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь, рэгламентамі Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі.

**Артыкул 5. Тэрмін паўнамоцтваў дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Тэрмін паўнамоцтваў дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі — чатыры гады.

Тэрмін выканання паўнамоцтваў дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, членам Савета Рэспублікі пачынаецца з дня першага пасяджэння нававыбраных Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі і заканчваецца ў дзень адкрыцця першага пасяджэння Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі новага склікання, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных артыкулам 8 гэтага Закона.

Тэрмін паўнамоцтваў дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі можа быць прадоўжаны ў адпаведнасці з часткай першай артыкула 93 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь толькі ў выпадку вайны.

Палата прадстаўнікоў па прадстаўленню Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў і на падставе заключэння камісіі Палаты прадстаўнікоў, да ведання якой адносяцца пытанні мандата, прымае рашэнне аб прызнанні паўнамоцтваў дэпутатаў, а пры парушэннях у асобных выпадках заканадаўства аб выбарах — аб прызнанні паўнамоцтваў асобных дэпутатаў несапраўднымі.

**Артыкул 6. Умовы ажыццяўлення дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, членам Савета Рэспублікі сваіх паўнамоцтваў**

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў ажыццяўляе свае паўнамоцтвы ў Парламенце на прафесійнай аснове, калі іншае не прадугледжана Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

Член Савета Рэспублікі ажыццяўляе свае паўнамоцтвы ў Парламенце на прафесійнай аснове ці без адрыву ад вытворчай або службовай дзейнасці. Ён вызваляецца ад выканання вытворчых або службовых абавязкаў па месцы асноўнай работы на час ажыццяўлення ім сваіх паўнамоцтваў.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі, якія ажыццяўляюць свае паўнамоцтвы на прафесійнай аснове, не могуць займацца іншай аплатнай дзейнасцю, акрамя выкладчыцкай, навуковай і іншай творчай дзейнасці. Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, члены Савета Рэспублікі па ўзроўню заработнай платы, медыцынскага, санаторна-курортнага і сацыяльна-бытавога забеспячэння прыроўніваюцца да міністраў Рэспублікі Беларусь.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў можа быць адначасова членам Урада Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 7. Звесткі аб даходах і маёмасці дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі прадстаўляюць дэкларацыю аб даходах і маёмасці адпаведна ў Палату прадстаўнікоў, Савет Рэспублікі ва ўстаноўленым парадку.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі ў выпадку парушэння імі прадугледжанага законам парадку дэклараванне даходаў, маёмасці і грашовых сродкаў нясуць адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам.

**Артыкул 8. Датэрміновае спыненне паўнамоцтваў дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Паўнамоцтвы дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі па рашэнню адпаведна Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі датэрмінова спыняюцца:

1) у сувязі з выбраннем або назначэннем дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі на пасаду, заняцце якой згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і гэтым Законам несумяшчальнае з выкананнем паўнамоцтваў дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі;

2) у сувязі з пісьмовай заявай дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі аб складанні паўнамоцтваў па стану здароўя ці з прычыны іншых абставінаў, якія перашкаджаюць іх выкананню;

3) у выпадку прызнання іх судом недзеяздольнымі;

4) пры нязгодзе дэпутата Палаты прадстаўнікоў новага склікання на працягу трох месяцаў перайсці на прафесійную работу ў Палату прадстаўнікоў;

5) у выпадку прызнання выбараў або паўнамоцтваў асобных дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, членаў Савета Рэспублікі несапраўднымі;

6) у сувязі з уступіўшым у законную сілу абвінаваўчым прыгаворам Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь у адносінах да асобы, якая з'яўляецца дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, членам Савета Рэспублікі;

7) у выпадку страты дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, членам Савета Рэспублікі грамадзянства Рэспублікі Беларусь;

8) у выпадку адклікання дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі;

9) у сувязі з пісьмовай заявай дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі аб складанні паўнамоцтваў па асабістых прычынах.

Рашэнне аб датэрміновым спыненні паўнамоцтваў дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі афармляецца пастановай адпаведнай палаты, у якой указваецца, з якога моманту іх паўнамоцтвы спынены.

У выпадку датэрміновага спынення паўнамоцтваў (роспуску) Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі, а таксама смерці дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі іх паўнамоцтвы спыняюцца без прыняцця рашэння адпаведнай палатай Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

У выпадку датэрміновага спынення паўнамоцтваў (роспуску) Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь паўнамоцтвы дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, членаў Савета Рэспублікі спыняюцца ў дзень датэрміновага спынення паўнамоцтваў (роспуску) Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі.

**Артыкул 9. Адкліканне дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў можа быць адкліканы па падставах, прадугледжаных законам.

Член Савета Рэспублікі можа быць адкліканы па падставах і ў парадку, устаноўленых законам. Парадак адклікання членаў Савета Рэспублікі, назначаных Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, вызначаецца актамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 10. Пасведчанні і нагрудны знак дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі маюць адпаведныя пасведчанні, што пацвярджаюць іх асобу і паўнамоцтвы, і нагрудны знак, якімі яны карыстаюцца на працягу тэрміну сваіх паўнамоцтваў.

Ніхто не мае права патрабаваць ад дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі прад'яўлення іншых дакументаў, якія пацвярджаюць іх асобу і паўнамоцтвы.

Узоры і апісанне пасведчанняў і нагруднага знака дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі зацвярджаюцца адпаведна рашэннем Савета Палаты прадстаўнікоў, пастановай Прэзідыума Савета Рэспублікі.

***ГЛАВА 2. Дзейнасць дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі ў Палаце прадстаўнікоў, Савеце Рэспублікі і іх органах***

**Артыкул 11. Формы дзейнасці дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Формамі дзейнасці дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі з'яўляюцца:

1) удзел адпаведна ў пасяджэннях Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі, сумесных пасяджэннях Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі;

2) удзел у рабоце пастаянных камісій і іншых органаў палат;

3) удзел у рабоце пагаджальных камісій, якія ствараюцца Палатай прадстаўнікоў і Саветам Рэспублікі ў адпаведнасці з часткай чацвёртай артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь;

4) удзел у рабоце міжпарламенцкіх органаў і органаў міждзяржаўных утварэнняў, у састаў якіх уваходзіць Рэспубліка Беларусь;

5) удзел у выкананні даручэнняў Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі і іх органаў;

6) удзел у парламенцкіх слуханнях;

7) удзел ва ўстаноўленым парадку ў праверках работы дзяржаўных органаў, органаў грамадскіх аб'яднанняў, устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў;

8) запыт дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі;

9) пытанні дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі да Урада;

10) зварот дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі;

11) удзел у рабоце дэпутацкіх груп, аб'яднанняў, асацыяцый і клубаў.

Дзейнасць дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі можа ажыццяўляцца таксама ў іншых формах, прадугледжаных Канстытуцыяй і законамі Рэспублікі Беларусь, рэгламентамі Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі.

**Артыкул 12. Правы і абавязкі дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі як члены прадстаўнічага і заканадаўчага органа Рэспублікі Беларусь нясуць адказнасць перад выбаршчыкамі і адпаведна перад Палатай прадстаўнікоў, Саветам Рэспублікі.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі валодаюць усёй паўнатой правоў, якія забяспечваюць іх актыўны ўдзел у дзейнасці Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі, утвараемых імі пастаянных і часовых камісій, іншых органаў.

Усе дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, члены Савета Рэспублікі ўваходзяць у састаў пастаянных камісій, за выключэннем Старшыні Палаты прадстаўнікоў, Старшыні Савета Рэспублікі і іх намеснікаў. Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі могуць быць членамі толькі адной пастаяннай камісіі.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, які ўваходзіць у састаў Савета Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі, які ўваходзіць у састаў Прэзідыума Савета Рэспублікі, пастаянных камісій і іншых органаў Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі, маюць права ўносіць пытанні і прапановы на разгляд гэтых органаў, удзельнічаць у падрыхтоўцы да іх разгляду, у абмеркаванні і прыняцці па іх рашэнняў, а таксама ў правядзенні іх у жыццё.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі маюць права прымаць удзел з правам дарадчага голасу, уносіць прапановы па абмяркоўваемых пытаннях на пасяджэннях камісій, у састаў якіх яны не ўваходзяць.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі, не згодныя з рашэннем Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі і іх органаў, у састаў якіх яны выбраны або ўваходзяць па пасадзе, маюць права выкласці свой пункт гледжання на пасяджэннях Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі або паведаміць аб ім у пісьмовай форме старшынствуючаму на пасяджэнні адпаведнай палаты або яе органа.

**Артыкул 13. Удзел дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі ў пасяджэннях Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі і іх органаў**

На пасяджэннях Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, члены Савета Рэспублікі на аснове калектыўнага, раўнапраўнага і свабоднага абмеркавання разглядаюць і вырашаюць пытанні, аднесеныя Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь адпаведна да ведання Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі.

Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, члены Савета Рэспублікі збіраюцца на чарговыя сесіі ў адпаведнасці з артыкулам 95 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь без спецыяльнага запрашэння.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі абавязаны прысутнічаць на пасяджэннях і ўдзельнічаць у рабоце Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі і іх органаў, у састаў якіх яны выбраны або ўваходзяць па пасадзе.

Пры немагчымасці прысутнічаць на пасяджэнні палаты або яе органаў дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі абавязаны загадзя інфармаваць аб гэтым адпаведна Старшыню Палаты прадстаўнікоў, Старшыню Савета Рэспублікі або кіраўніка органа адпаведнай палаты, у састаў якога яны выбраны або ўваходзяць па пасадзе.

Дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі, якія не ўдзельнічалі без уважлівых прычын у рабоце пасяджэнняў Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі, пастаянных камісій, іншых органаў, членамі якіх яны з'яўляюцца, па рашэнню Старшыні Палаты прадстаўнікоў, Старшыні Савета Рэспублікі або іх намеснікаў не выплачваюцца кампенсацыйныя выплаты, заработная плата за час іх адсутнасці.

Пры сістэматычным няўдзеле дэпутата Палаты прадстаўнікоў у рабоце сесіі, а таксама пры парушэнні ім нормаў парламенцкай этыкі Палата прадстаўнікоў інфармуе аб гэтым выбаршчыкаў акругі дадзенага дэпутата.

**Артыкул 14. Правы дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі на сесіі Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі**

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі карыстаюцца правам рашаючага голасу па ўсіх пытаннях, што разглядаюцца адпаведна Палатай прадстаўнікоў, Саветам Рэспублікі і іх органамі, у састаў якіх яны выбраны або ўваходзяць па пасадзе.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі маюць права:

выбіраць і быць выбранымі Старшынёй адпаведнай палаты або яго намеснікам, у органы Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі;

уносіць прапановы і выказваць думкі па персанальнаму складу органаў, што ствараюцца адпаведна Палатай прадстаўнікоў, Саветам Рэспублікі, і кандыдатурах службовых асоб, якія разглядаюцца палатамі;

уносіць з адпаведнай матывіроўкай пытанне аб вызваленні ад пасад асоб, выбраных, назначаных або зацверджаных адпаведна Палатай прадстаўнікоў, Саветам Рэспублікі;

прапаноўваць пытанні для разгляду адпаведна Палатай прадстаўнікоў, Саветам Рэспублікі і іх органамі;

уносіць прапановы і заўвагі па парадку дня і пераліку пытанняў, якія падлягаюць разгляду на дадзеным пленарным пасяджэнні, па парадку разгляду і сутнасці абмяркоўваемых пытанняў;

удзельнічаць у спрэчках, задаваць пытанні, даваць даведкі, даводзіць да ведама адпаведна дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, членаў Савета Рэспублікі свой пункт гледжання і пункт гледжання выбаршчыкаў, насельніцтва, звяртацца з запытам;

удзельнічаць з правам дарадчага голасу ў рабоце любога органа Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі;

своечасова атрымліваць ва ўстаноўленым парадку друкаваныя экземпляры ўнесеных на абмеркаванне законапраектаў, прыкладзеныя да іх прапановы, абгрунтаванні, а таксама праекты іншых дакументаў, якія ўносяцца на абмеркаванне палат і іх органаў;

перадаваць у сакратарыят сесіі тэкст свайго выступлення, у тым ліку і не зачытанага ўслых, а таксама выкладзеныя ў пісьмовай форме прапановы і заўвагі па абмяркоўваемых пытаннях для ўключэння іх у пратакол або стэнаграму;

знаёміцца з пратаколамі пасяджэнняў адпаведна Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі і іх органаў, з тэкстам сваіх выступленняў у стэнаграме да яе апублікавання, а таксама атрымліваць тэксты выступленняў, якія не падлягаюць апублікаванню.

Парадак ажыццяўлення ўказаных правоў вызначаецца гэтым Законам і рэгламентамі Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі.

**Артыкул 15. Права заканадаўчай ініцыятывы дэпутата Палаты прадстаўнікоў**

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў валодае правам заканадаўчай ініцыятывы, якое рэалізуецца праз унясенне ў Палату прадстаўнікоў праектаў законаў і пастаноў Палаты прадстаўнікоў і папраўак да іх, за выключэннем выпадкаў, устаноўленых Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 16. Запыт дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Запыт дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі — уносімая дэпутатам Палаты прадстаўнікоў на сесіі Палаты прадстаўнікоў, членам Савета Рэспублікі на сесіі Савета Рэспублікі ў пісьмовай форме прапанова даць афіцыйнае растлумачэнне або выкласці пазіцыю па пытаннях, якія іх цікавяць, аднесеных да кампетэнцыі дзяржаўных органаў або службовых асоб.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі маюць права звярнуцца з запытам да прэм'ер-міністра, членаў Урада, кіраўнікоў дзяржаўных органаў, што ўтвараюцца або выбіраюцца Парламентам, па пытаннях, якія ўваходзяць у кампетэнцыю гэтых органаў.

Запыт павінен быць уключаны ў парадак дня палаты і пры неабходнасці абмеркаваны. Палата прымае ва ўстаноўленым парадку рашэнне аб накіраванні запыту адпаведнай службовай асобе, да якой ён звернуты.

Службовая асоба, да якой звернуты запыт, абавязана на працягу дваццаці сесіённых дзён даць адказ на запыт.

Пісьмовы адказ на запыт чытаецца ўголас на сесіі палаты. Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі маюць права даць ацэнку адказу службовай асобы на іх запыт. Па выніках абмеркавання запыту і адказу на яго можа быць прынята пастанова палаты.

Запыт, адказ на яго і пастанова палаты Парламента, прынятая па выніках яго разгляду, падлягаюць афіцыйнаму апублікаванню.

Асобы, да якіх звернуты запыт, нясуць устаноўленую заканадаўствам адказнасць за своечасовасць разгляду запыту, паўнату і дакладнасць прадстаўленай інфармацыі.

**Артыкул 17. Пытанні дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі да Урада**

У адпаведнасці з часткай другой артыкула 103 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь у час сесій Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі адно пасяджэнне ў месяц рэзервуецца для пытанняў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, членаў Савета Рэспублікі і адказаў Урада.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі маюць права звярнуцца з пытаннем у вуснай (на пасяджэнні палаты) або пісьмовай форме да Урада і атрымаць афіцыйны адказ на зададзенае пытанне.

Пытанне ў пісьмовай форме загадзя перадаецца ў сакратарыят адпаведнай палаты не пазней чым за сем дзён да дня правядзення пасяджэння палаты. Старшыня палаты або яго намеснік накіроўвае запрашэнні членам Урада з пералікам паступіўшых пытанняў.

У выпадку, калі запрошаны член Урада не мае магчымасці прыбыць на пасяджэнне Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі, ён у абавязковым парадку дае афіцыйны пісьмовы адказ на папярэдне зададзенае пытанне, які даводзіцца да ведама парламентарыяў на гэтым пасяджэнні палаты.

**Артыкул 18. Зварот дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Зварот дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі — выкладзеная ў пісьмовай форме прапанова да службовых асоб дзяржаўных органаў, органаў грамадскіх аб'яднанняў, устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў аб прадстаўленні інфармацыі і растлумачэнняў па пытаннях, якія адносяцца да кампетэнцыі дзяржаўнага органа, установы, арганізацыі, прадпрыемства або службовай асобы.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі маюць права звярнуцца да службовых асоб дзяржаўных органаў, органаў грамадскіх аб'яднанняў, да кіраўнікоў устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў незалежна ад формаў уласнасці і падпарадкавання (далей — прадпрыемствы), іншых службовых асоб па пытаннях, звязаных з іх парламенцкай дзейнасцю, і прымаць удзел у разглядзе пастаўленых пытанняў.

Мясцовыя Саветы дэпутатаў, выканаўчыя і распарадчыя органы, іншыя дзяржаўныя органы, органы грамадскіх аб'яднанняў, а таксама кіраўнікі ўстаноў, арганізацый і прадпрыемстваў, іншыя службовыя асобы, да якіх звяртаюцца дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі па пытаннях, што ўваходзяць у іх кампетэнцыю, абавязаны даць адказ на іх зварот у вуснай або па іх патрабаванню ў пісьмовай форме неадкладна, а пры неабходнасці дадатковага вывучэння або праверкі фактаў — не пазней чым у месячны тэрмін.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі маюць права прымаць непасрэдны ўдзел у разглядзе пастаўленых імі ў звароце пытанняў. Службовая асоба, якая арганізуе гэты разгляд, абавязана паведаміць ім аб часе і месцы разгляду звароту загадзя, але не пазней чым за тры дні.

Калі дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі не задаволены адказам на свой зварот, яны маюць права зрабіць запыт у адпаведнасці з гэтым Законам.

Асобы, якім адрасаваны зварот дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі, нясуць устаноўленую заканадаўствам адказнасць за своечасовасць, паўнату і дакладнасць прадстаўленай па звароту інфармацыі.

**Артыкул 19. Разгляд прапаноў і заўваг дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі, унесеных на сесіях палат**

Прапановы і заўвагі дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі, выказаныя імі на сесіях Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі або перададзеныя ў пісьмовай форме старшынствуючаму на пасяджэнні, разглядаюцца адпаведна Палатай прадстаўнікоў, Саветам Рэспублікі, іх пастаяннымі камісіямі і іншымі органамі ці накіроўваюцца на разгляд адпаведным дзяржаўным органам і службовым асобам.

Дзяржаўныя органы, а таксама службовыя асобы, якім накіраваны прапановы і заўвагі, унесеныя на сесіі Палаты прадстаўнікоў або Савета Рэспублікі, абавязаны не пазней чым у месячны тэрмін разглядаюць гэтыя прапановы і заўвагі і аб выніках паведамляюць у пісьмовай форме непасрэдна дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі ці старшыні адпаведнай палаты або Савету Палаты прадстаўнікоў, Прэзідыуму Савета Рэспублікі.

**Артыкул 20. Права дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі на першачарговы прыём службовымі асобамі і беспярэшкодны доступ ва ўстановы, у арганізацыі, на прадпрыемствы**

Па пытаннях сваёй парламенцкай дзейнасці дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі карыстаюцца правам першачарговага прыёму службовымі асобамі размешчаных на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь дзяржаўных органаў, органаў грамадскіх аб'яднанняў, устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў, асобамі начальніцкага саставу Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, іншых войскаў і воінскіх фарміраванняў, іншымі службовымі асобамі.

**(Працяг на 4-й стар.)**

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ СТАТУСЕ ДЭПУТАТА ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ, ЧЛЕНА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



**(Працяг. Пачатак на 3-й стар.)**

Пры выкананні сваіх паўнамоцтваў дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі карыстаюцца правам доступу ў дзяржаўныя органы, органы грамадскіх аб'яднанняў, ва ўстановы, у арганізацыі, на прадпрыемствы, размешчаныя на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Парадак доступу дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі ва ўстановы, у арганізацыі, на прадпрыемствы або ў іх падраздзяленні, наведванне якіх абмежавана ў адпаведнасці з актамі заканадаўства, устанаўліваецца заканадаўствам.

**Артыкул 21. Удзел дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі ў праверках дзяржаўных органаў, органаў грамадскіх аб'яднанняў, устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў**

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі могуць прымаць удзел у праверках работы дзяржаўных органаў, органаў грамадскіх аб'яднанняў, устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў, якія праводзяцца органамі дзяржаўнага кантролю ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

**Артыкул 22. Права дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі патрабаваць устаранення парушэння законнасці**

У выпадку выяўлення парушэння законнасці дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі маюць права накіраваць прадстаўленне службовай асобе праваахоўных або кантрольных органаў, іншых дзяржаўных органаў, органаў грамадскіх аб'яднанняў, устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў.

Службовыя асобы дзяржаўных органаў, органаў грамадскіх аб'яднанняў, устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў, а таксама работнікі міліцыі, да якіх накіравана прадстаўленне дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі, прымаюць меры да ўстаранення парушэння, а пры неабходнасці — да прыцягнення вінаватых да адказнасці з далейшым інфармаваннем аб гэтым дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі.

**Артыкул 23. Дэпутацкія групы, аб'яднанні, асацыяцыі, клубы**

Для ажыццяўлення дэпутацкіх паўнамоцтваў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў могуць на аснове іх узаемнай згоды аб'ядноўвацца ў дэпутацкія групы, асацыяцыі, клубы, аб'яднанні.

***ГЛАВА 3. Работа дэпутата Палаты прадстаўнікоў з выбаршчыкамі, члена Савета Рэспублікі з насельніцтвам***

**Артыкул 24. Работа дэпутата Палаты прадстаўнікоў з выбаршчыкамі, члена Савета Рэспублікі з насельніцтвам**

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі праводзяць сходы выбаршчыкаў акругі, насельніцтва адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі, сустрэчы з працоўнымі калектывамі; інфармуюць выбаршчыкаў і насельніцтва, працоўныя калектывы аб сваёй рабоце ў Палаце прадстаўнікоў, Савеце Рэспублікі ў час сустрэч з імі, а таксама праз сродкі масавай інфармацыі.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі прымаюць меры па забеспячэнню правоў, свабод і законных інтарэсаў сваіх выбаршчыкаў, насельніцтва адпаведнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі: разглядаюць прапановы, заявы і скаргі, якія паступілі ад іх, садзейнічаюць у межах сваіх паўнамоцтваў своечасоваму вырашэнню пытанняў, што змяшчаюцца ў іх; вядуць прыём грамадзян; вывучаюць грамадскую думку і пры неабходнасці ўносяць прапановы ў адпаведныя дзяржаўныя органы, органы тэрытарыяльнага грамадскага самакіравання і грамадскія аб'яднанні.

У сваёй рабоце дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі ўзаемадзейнічаюць з дзяржаўнымі органамі, органамі тэрытарыяльнага грамадскага самакіравання, палітычнымі партыямі і іншымі грамадскімі аб'яднаннямі. Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі маюць права ўдзельнічаць з правам дарадчага голасу ў разглядзе дзяржаўнымі органамі пытанняў, пастаўленых у звароце дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі.

**Артыкул 25. Разгляд дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, членам Савета Рэспублікі зваротаў грамадзян**

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі разглядаюць атрыманыя імі прапановы, заявы і скаргі грамадзян, прымаюць меры па іх законнаму і своечасоваму вырашэнню ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі вывучаюць прычыны, якія параджаюць скаргі грамадзян, і ўносяць свае прапановы ў Палату прадстаўнікоў, Савет Рэспублікі і іх органы, мясцовыя Саветы дэпутатаў, выканаўчыя і распарадчыя органы, іншыя дзяржаўныя органы, органы грамадскіх аб'яднанняў, ва ўстановы, у арганізацыі і прадпрыемствы.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі ажыццяўляюць кантроль за разглядам атрыманых імі заваротаў грамадзян у дзяржаўных органах, органах грамадскіх аб'яднанняў, ва ўстановах, арганізацыях і на прадпрыемствах, прымаюць асабісты ўдзел у іх разглядзе і кантролі за рэалізацыяй прынятых па зваротах грамадзян рашэнняў.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі ў выпадку неабходнасці могуць па ўзгадненню са службовымі асобамі дзяржаўных органаў, органаў грамадскіх аб'яднанняў, устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў, размешчаных на тэрыторыі выбарчай акругі, адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі, прыцягваць іх да ўдзелу ў прыёме грамадзян, разглядзе зваротаў грамадзян. Не пазней чым за тры дні да пачатку прыёму дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі паведамляюць кіраўніку дзяржаўнага органа, органа грамадскага аб'яднання, установы, арганізацыі і прадпрыемства аб часе і месцы правядзення прыёму.

Па выніках разгляду прапаноў, заяў або скаргаў грамадзян дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі могуць накіраваць прадстаўленне службовым асобам адпаведных дзяржаўных органаў, органаў грамадскіх аб'яднанняў, устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў.

**Артыкул 26. Справаздачы дэпутата Палаты прадстаўнікоў перад выбаршчыкамі, сустрэчы з імі**

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў адказны перад выбаршчыкамі і ім падсправаздачны.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў абавязаны перыядычна, але не радзей аднаго разу ў год рабіць справаздачу перад выбаршчыкамі акругі аб сваёй рабоце, ходзе выканання перадвыбарнай праграмы, рабоце Палаты прадстаўнікоў і тых яе органаў, у састаў якіх ён выбраны або ўваходзіць па пасадзе.

Справаздача дэпутата можа быць праведзена таксама па патрабаванню не менш як 300 выбаршчыкаў, якія пражываюць на тэрыторыі выбарчай акругі.

Інфармацыя аб справаздачы можа быць перададзена па мясцоваму радыё і тэлебачанню, апублікавана ў мясцовым друку.

Расходы, звязаныя з выкарыстаннем сродкаў масавай інфармацыі, памяшканняў, транспарту, абсталявання для справаздач, сустрэч і зносінаў дэпутата з выбаршчыкамі, ажыццяўляюцца за кошт рэспубліканскага бюджэту ў парадку, прадугледжаным артыкулам 44 гэтага Закона.

**Артыкул 27. Садзейнічанне дэпутату Палаты прадстаўнікоў у правядзенні справаздач і сустрэч з выбаршчыкамі**

Мясцовыя Саветы дэпутатаў, выканаўчыя і распарадчыя органы, грамадскія аб'яднанні аказваюць дэпутату Палаты прадстаўнікоў садзейнічанне і неабходную дапамогу ў правядзенні сустрэч і сходаў з выбаршчыкамі па справаздачы аб праробленай ім рабоце. З гэтай мэтай мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы выдзяляюць памяшканне, абсталяванне, транспарт, загадзя паведамляюць грамадзянам аб часе, месцы правядзення справаздачы дэпутата або яго сустрэчы з выбаршчыкамі.

Мясцовыя Саветы дэпутатаў, выканаўчыя і распарадчыя органы, іншыя дзяржаўныя органы, органы грамадскіх аб'яднанняў прадастаўляюць дэпутату Палаты прадстаўнікоў па яго просьбе матэрыялы, неабходныя для справаздач, сустрэч і выступленняў перад выбаршчыкамі. Мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы, дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі забяспечваюць аб'ектыўнае асвятленне справаздач, сустрэч дэпутата з выбаршчыкамі.

**Артыкул 28. Удзел дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі ў рабоце органаў мясцовага кіравання і самакіравання**

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі маюць права ўдзельнічаць з правам дарадчага голасу ў пасяджэннях органаў мясцовага кіравання і самакіравання.

**Артыкул 29. Права дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі на атрыманне і распаўсюджванне інфармацыі**

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі па даручэнню кіраўніцтва палат забяспечваюцца ва ўстаноўленым парадку дакументамі, прынятымі палатамі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, а таксама іншымі інфармацыйнымі і даведачнымі матэрыяламі.

Пры звароце дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі ў дзяржаўныя органы, органы грамадскіх аб'яднанняў, ва ўстановы, у арганізацыі і на прадпрыемствы службовыя асобы аказваюць ім дапамогу ў вырашэнні пытанняў, звязаных з іх дэпутацкай дзейнасцю і выкананнем абавязкаў члена Савета Рэспублікі.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі маюць пераважнае права выступаць па пытаннях сваёй дзейнасці ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі. Пры гэтым матэрыялы, якія прадстаўляюцца дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, членам Савета Рэспублікі па даручэнню адпаведнай палаты і яе органаў, падлягаюць абавязковаму апублікаванню або распаўсюджванню праз дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі ў тэрмін, узгоднены з дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, членам Савета Рэспублікі, але не пазней сямі дзён пасля звароту. Рэдагаванне прадстаўленых дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, членам Савета Рэспублікі матэрыялаў без іх згоды не дапускаецца.

***ГЛАВА 4. Асноўныя гарантыі дзейнасці дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі***

**Артыкул 30. Абавязковасць паўнамоцтваў дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Ніхто не мае права абмяжоўваць канстытуцыйныя паўнамоцтвы дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі.

**Артыкул 31. Забеспячэнне ўмоў для ажыццяўлення дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, членам Савета Рэспублікі сваіх паўнамоцтваў**

Дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі пры ажыццяўленні сваіх паўнамоцтваў дзяржава гарантуе і забяспечвае неабходныя ўмовы для беспераШкоднай і эфектыўнай рэалізацыі іх правоў і абавязкаў, устаноўленых Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, гэтым Законам, іншымі законамі Рэспублікі Беларусь.

Палата прадстаўнікоў, Савет Рэспублікі, сакратарыяты палат, мясцовыя Саветы дэпутатаў, выканаўчыя і распарадчыя органы, установы, арганізацыі, прадпрыемствы забяспечваюць умовы для ажыццяўлення паўнамоцтваў дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі, прадастаўляюць ім неабходныя для работы бібліятэчныя фонды і архівы, сродкі сувязі, электронна-вылічальную, капіравальна-размнажальную і друкарскую тэхніку.

Палата прадстаўнікоў, Савет Рэспублікі ствараюць умовы для павышэння прафесійнага ўзроўню дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, членаў Савета Рэспублікі.

Дэпутату Палаты прадстаўнікоў штомесяц прадастаўляюцца пэўныя дні для работы з выбаршчыкамі ў парадку, які вызначаецца Рэгламентам Палаты прадстаўнікоў.

Для вядзення прыёму грамадзян, разгляду іх зваротаў і ажыццяўлення іншай дзейнасці дэпутату Палаты прадстаўнікоў у выбарчай акрузе, члену Савета Рэспублікі ў адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінцы кіраўніком адпаведнага мясцовага выканаўчага і распарадчага органа ці адміністрацыяй дзяржаўнай установы, арганізацыі, прадпрыемства, якія знаходзяцца на тэрыторыі акругі, адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі, прадастаўляецца асобнае памяшканне, абсталяванае мэбляй, сродкамі сувязі і неабходнай аргтэхнікай.

**Артыкул 32. Забеспячэнне матэрыяльна-фінансавых умоў для ажыццяўлення дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, членам Савета Рэспублікі сваіх паўнамоцтваў**

Усе дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, члены Савета Рэспублікі, якія працуюць на прафесійнай аснове, незалежна ад займаемай у Палаце прадстаўнікоў, Савеце Рэспублікі пасады, за выключэннем старшынь палат Парламента, іх намеснікаў, атрымліваюць аднолькавае штомесячнае грашовае ўзнагароджанне ў памеры заработнай платы міністра. Заработная плата старшынь палат Парламента і іх намеснікаў устанаўліваецца згодна з дзеючым заканадаўствам.

Члену Савета Рэспублікі, які не працуе ў Савеце Рэспублікі на прафесійнай аснове, выплачваецца даплата да заработнай платы ў памеры розніцы паміж сярэднім заробкам па асноўным месцы работы і грашовым узнагароджаннем члена Савета Рэспублікі, які працуе на прафесійнай аснове.

Дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі штомесяц пакрываюцца расходы, звязаныя з іх парламенцкай дзейнасцю, у парадку і памерах, устаноўленых заканадаўствам.

Пры гэтым кампенсацыйныя выплаты па пакрыццю расходаў, звязаных з дзейнасцю дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі, не абкладаюцца падаходным падаткам.

**Артыкул 33. Прадастаўленне дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі службовага памяшкання**

Дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі, якія ажыццяўляюць свае паўнамоцтвы на прафесійнай аснове, для ажыццяўлення парламенцкай дзейнасці прадастаўляецца службовае памяшканне ў будынку адпаведнай палаты, абсталяванае мэбляй, аргтэхнікай, сродкамі сувязі, што забяспечваюць неабходныя ўмовы для работы.

**Артыкул 34. Прадастаўленне дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі жылога памяшкання**

Дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі, якія ажыццяўляюць свае паўнамоцтвы на прафесійнай аснове, не маюць у горадзе Мінску жылой плошчы або стаяць на ўліку для паляпшэння жыллёвых умоў, па іх заяве не пазней шасці месяцаў з дня пачатку работы на прафесійнай аснове прадастаўляецца ў горадзе Мінску службовае жылое памяшканне для пражывання з членамі сям'і. На перыяд да атрымання службовай жылой плошчы дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі, якія ажыццяўляюць свае паўнамоцтвы на прафесійнай аснове, прадастаўляецца двухмесны гасцінічны нумар ці па іх жаданню пакрываюцца расходы па найму жылога памяшкання ў парадку і памеры, устаноўленых заканадаўствам.

Жылая плошча па пастаянным месцы жыхарства, якую займаюць дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі і члены іх сем'яў, браніруецца на час іх адсутнасці ў сувязі з ажыццяўленнем сваіх паўнамоцтваў у Парламенце.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі маюць права на пазачарговую ўстаноўку кватэрнага тэлефона.

**Артыкул 35. Штогадовы аплатны водпуск дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі прадастаўляецца штогадовы аплатны водпуск працягласцю 36 каляндарных дзён, калі заканадаўствам не прадугледжаны водпуск большай працягласці.

**Артыкул 36. Праезд дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі ў транспарце**

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі ў час выканання сваіх паўнамоцтваў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь маюць права карыстацца паветраным, чыгуначным, аўтамабільным, водным транспартам і ўсімі відамі гарадскога і прыгараднага пасажырскага транспарту (за выключэннем таксі) за кошт сродкаў, якія выдзяляюцца з рэспубліканскага бюджэту на фінансаванне Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, а таксама права пазачарговага набыцця праязных дакументаў і браніравання білетаў.

Па прад'яўленні пасведчання дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі агенцтвы, білетныя касы (як сутачнага, так і папярэдняга продажу) абавязаны без чаргі прадаставіць ім білет.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі маюць права карыстацца заламі афіцыйных дэлегацый аэрапортаў, чыгуначных і рачных вакзалаў.

Дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі для паездак пры ажыццяўленні сваіх паўнамоцтваў на тэрыторыі выбарчай акругі, адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі аўтатранспарт прадастаўляецца адпаведнымі мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі.

Дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі, якія карыстаюцца асабістым транспартам для ажыццяўлення сваіх паўнамоцтваў, выплачваецца грашовая кампенсацыя ў парадку і памеры, устаноўленых заканадаўствам.

**Артыкул 37. Вызваленне дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі ад прызыву на ваенную службу і ваенныя зборы**

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі вызваляюцца на тэрмін іх паўнамоцтваў ад прызыву на ваенную службу і ваенныя зборы.

**Артыкул 38. Гарантыі працоўных правоў дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Па сканчэнні тэрміну паўнамоцтваў дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі, якія працуюць у Парламенце на прафесійнай аснове, выплачваецца выхадная дапамога ў памеры, устаноўленым для міністра Рэспублікі Беларусь. Гэта правіла не распаўсюджваецца на дэпутатаў — членаў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Палата прадстаўнікоў, Савет Рэспублікі і Урад Рэспублікі Беларусь забяспечваюць працаўладкаванне дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі, якія працуюць у Парламенце на прафесійнай аснове, па заканчэнні тэрміну іх паўнамоцтваў. Ім прадастаўляецца работа з іх згоды з улікам атрыманай кваліфікацыі і вопыту работы ў Парламенце. Па жаданню ім прадастаўляецца ранейшае месца работы (пасада), за выключэннем пасады члена Урада Рэспублікі Беларусь і выбарнай пасады ў дзяржаўных органах, а пры адсутнасці такой магчымасці ў сувязі з ліквідацыяй ранейшай пасады, ліквідацыяй або рэарганізацыяй прадпрыемства, установы, арганізацыі — іншая раўнацэнная работа (пасада).

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі, якія працуюць у Парламенце на прафесійнай аснове, з ліку ваеннаслужачых і іншых асоб, чыя служба рэгулюецца статутамі і палажэннямі, па заканчэнні тэрміну работы ў Палаце прадстаўнікоў, Савеце Рэспублікі, іх органах накіроўваюцца ў распараджэнне адпаведных рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання для далейшага праходжання службы ў раней займаемай, роўнай або вышэйшай пасадзе з іх згоды.

Тэрмін паўнамоцтваў дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі залічваецца ў агульны стаж работы (службы), стаж работы па ранейшай спецыяльнасці, стаж службы ў дзяржаўным апараце.

Дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі і членам іх сем'яў, якія пражываюць на дзень спынення парламенцкіх паўнамоцтваў у службовай кватэры ў горадзе Мінску, забяспечваюцца бясплатны праезд і бясплатны правоз прыналежнай ім маёмасці да пастаяннага месца жыхарства.

Прадугледжаныя гэтым артыкулам правы распаўсюджваюцца таксама на дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі ў выпадку роспуску Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі, за выключэннем выпадкаў роспуску палат у адпаведнасці з часткай другой артыкула 94 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 39. Дзяржаўнае асабістае страхаванне дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі падлягаюць абавязковаму дзяржаўнаму асабістаму страхаванню на выпадак смерці (гібелі), калецтва або іншага пашкоджання здароўя, звязаных з выкананнем імі парламенцкіх паўнамоцтваў, а таксама на выпадак хваробы або страты працаздольнасці, якая наступіла ў перыяд работы ў Парламенце, на ўмовах, устаноўленых для міністра Рэспублікі Беларусь.

У выпадку прычынення дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі ў сувязі з ажыццяўленнем імі парламенцкіх паўнамоцтваў калецтва або іншага пашкоджання здароўя, што выклікалі стойкую страту працаздольнасці, ім штомесяц выплачваецца кампенсацыя ў памеры розніцы паміж іх месячнай заработнай платай на момант выплаты кампенсацыі і назначанай пенсіяй без заліку выплат страхавых сум па дзяржаўнаму страхаванню.

У выпадку смерці дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі членам іх сем'яў выплачваецца незалежна ад выплат па дзяржаўнаму страхаванню і сацыяльнаму забеспячэнню аднаразовая дапамога ў памеры дваццаці мінімальных заработных плат за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту.

**Артыкул 40. Медыцынскае, санаторна-курортнае і бытавое забеспячэнне дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі медыцынскае, санаторна-курортнае і бытавое забеспячэнне прадастаўляецца на ўмовах, устаноўленых для міністра Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 41. Пенсіённае забеспячэнне дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі, паўнамоцтвы якіх скончыліся або датэрмінова спынены ў адпаведнасці з пунктамі 1, 2, 3 часткі першай артыкула 8 гэтага Закона, па іх звароту назначаецца штомесячнае грашовае забеспячэнне на ўмовах і ў парадку, устаноўленых для выхаду ў адстаўку (на пенсію) міністра Рэспублікі Беларусь.

Пераразлік памеру штомесячнага грашовага забеспячэння былых дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, членаў Савета Рэспублікі праводзіцца адначасова з павелічэннем ва ўстаноўленым парадку заработнай платы працуючых на прафесійнай аснове на адпаведных або раўназначных пасадах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, членаў Савета Рэспублікі.

Выплата штомесячнага грашовага забеспячэння, назначанага згодна з гэтым артыкулам, у частцы, якая перавышае памер пенсіі па ўзросту, вызначаны зыходзячы з умоў і нормаў пенсіённага заканадаўства, ажыццяўляецца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту.

**Артыкул 42. Правы дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі ў выпадку роспуску Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі**

У выпадку роспуску Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі, за выключэннем выпадкаў роспуску палат у адпаведнасці з часткай другой артыкула 94 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, на дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, членаў Савета Рэспублікі распаўсюджваюцца гарантыі працоўных правоў, выкладзеныя ў артыкуле 38 гэтага Закона.

Дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі, паўнамоцтвы якіх спынены ў сувязі з роспускам Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі, за выключэннем выпадкаў роспуску палат у адпаведнасці з часткай другой артыкула 94 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, па іх звароту назначаецца пенсія ў парадку, прадугледжаным артыкулам 41 гэтага Закона.

**Артыкул 43. Выкарыстанне сродкаў сувязі дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, членам Савета Рэспублікі, права на пазачарговае гасцінічнае абслугоўванне**

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі ў сувязі з ажыццяўленнем сваіх паўнамоцтваў маюць права карыстацца сувяззю, якой распараджаюцца дзяржаўныя органы, установы, арганізацыі і прадпрыемствы (у тым ліку гасцініцы) на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі карыстаюцца правам пазачарговага атрымання паслуг сувязі.

Расходы дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі па выкарыстанню сродкаў сувязі ўстаноў, арганізацый і прадпрыемстваў у сувязі з ажыццяўленнем імі парламенцкай дзейнасці пакрываюцца ў парадку, вызначаным артыкулам 44 гэтага Закона.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі маюць права на пазачарговае пасяленне ў гасцініцы.

**Артыкул 44. Пакрыццё расходаў, звязаных з матэрыяльным забеспячэннем дзейнасці дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Расходы дзяржаўных органаў, устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў, звязаныя з дзейнасцю дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі, аплачваюцца за кошт рэспубліканскага бюджэту шляхам пералічэння сродкаў на рахункі адпаведных арганізацый з наступным іх аднясеннем праз Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь на каштарыс расходаў адпаведна Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі.

**Артыкул 45. Абарона правоў, гонару і годнасці дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Дзяржава гарантуе дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі ўмовы для беспераШкоднага і эфектыўнага ажыццяўлення імі сваіх паўнамоцтваў, абараняе іх правы, гонар і годнасць.

**Артыкул 46. Захаванне дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, членам Савета Рэспублікі нормаў парламенцкай этыкі**

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі павінны захоўваць нормы парламенцкай этыкі, прадугледжаныя гэтым Законам і рэгламентамі палат.

Пытанні аб парушэнні дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, членам Савета Рэспублікі нормаў парламенцкай этыкі разглядаюцца адпаведнымі пастаяннымі камісіямі Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі, да кампетэнцыі якіх адносяцца пытанні парламенцкай этыкі.

**Артыкул 47. Недатыкальнасць дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Са-

**(Заканчэнне на 5-й стар.)**

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ СТАТУСЕ ДЭПУТАТА ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ, ЧЛЕНА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й і 4-й стар.)**

вета Рэспублікі карыстаюцца недатыкальнасцю пры выказванні сваіх думак і ажыццяўленні сваіх паўнамоцтваў. Недатыкальнасць дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі распаўсюджваецца таксама на іх жылое, службовае памяшканні, асабісты і службовы транспартныя сродкі, перапіску, выкарыстоўваемыя імі сродкі сувязі і на прыналежныя ім дакументы.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі не могуць быць прыцягнуты да адказнасці за пазіцыю, выказаную пры галасаванні, і іншыя дзеянні, якія адпавядаюць іх статусу, у тым ліку і па сканчэнні тэрміну іх паўнамоцтваў. Гэта не адносіцца да абвінавачання іх у паклёпе і зняважэ.

На працягу тэрміну сваіх паўнамоцтваў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, члены Савета Рэспублікі могуць быць арыштаваны, іншым чынам пазбаўлены асабістай свабоды толькі з папярэдняй згоды адпаведнай палаты, за выключэннем выпадкаў учынення дзяржаўнай здрады або іншага цяжкага злачынства, а таксама затрымання на месцы ўчынення злачынства.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі не могуць быць падвергнуты вобыску, асабістаму надгляду, за выключэннем выпадкаў, калі гэта прадугледжана дзеючым заканадаўствам.

Крымінальная справа ў адносінах да дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі можа быць узбуджана толькі Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь і разглядаецца Вярхоўным Судом Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 48. Парадак атрымання згоды на пазбаўленне дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі недатыкальнасці і інфармаванне палат аб выніках вядзення па крымінальнай справе**

Пытанне аб пазбаўленні дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі недатыкальнасці вырашаецца адпаведнай палатай Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь.

У выпадках, калі прадстаўленне Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь паступае ў Палату прадстаўнікоў, Савет Рэспублікі ў перыяд паміж сесіямі, можа склікацца нечарговая сесія ў парадку, прадугледжаным Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, а таксама рэгламентам Палаты прадстаўнікоў або Савета Рэспублікі.

Палата прадстаўнікоў, Савет Рэспублікі разглядаюць прадстаўленне Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь у парадку, устаноўленым рэгламентам адпаведнай палаты, прымаюць матываванае рашэнне і паведамляюць аб ім Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь. У разглядзе пытання ў Палаце прадстаўнікоў, Савеце Рэспублікі маюць права ўдзельнічаць адпаведна дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі, у адносінах да якіх унесена прадстаўленне. Пры неабходнасці ад Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь могуць быць запатрабаваны дадатковыя матэрыялы.

Аб узбуджэнні, спыненні крымінальнай справы ці аб уступіўшым у законную сілу прыгаворы суда ў адносінах да дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі, орган дазнання, следчы ці суд у тэрмін, які не перавышае... трохдзённы тэрмін паведамляюць адпаведнай палаце Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 49. Дыпламатычны пашпарт дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі выдаецца дыпламатычны пашпарт у адпаведнасці з заканадаўствам.

**Артыкул 50. Памочнікі дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі для больш цеснай сувязі з выбаршчыкамі, насельніцтвам, атрымання пастаяннай дапамогі ў вырашэнні арганізацыйных, тэхнічных, кансультацыйных і іншых пытанняў, звязаных з іх дзейнасцю, маюць права мець да двух памочнікаў, якія працуюць на пастаяннай аснове з аплатай працы, і да трох помочнікаў, якія працуюць на грамадскіх пачатках.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі самастойна вызначаюць колькасць сваіх памочнікаў і размяркоўваюць абавязкі паміж імі.

Пастаянным рабочым месцам памочніка дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі з'яўляецца належным чынам абсталяванае памяшканне, якое прадастаўляецца адпаведным мясцовым выканаўчым і распарадчым органам дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі.

Работу памочнікаў непасрэдна накіроўваюць дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі, якія нясуць за іх дзейнасць персанальную адказнасць.

**Артыкул 51. Правы і абавязкі памочнікаў дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

У сувязі з выкананнем службовых абавязкаў памочнікі дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі:

1) праводзяць папярэдні прыём выбаршчыкаў і іншых асоб, а таксама вядуць запіс на прыём да дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі;

2) ажыццяўляюць падрыхтоўку і тэхнічнае абслугоўванне прыёму грамадзян дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, членам Савета Рэспублікі;

3) праводзяць прыём грамадзян па даручэнню дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі;

4) атрымліваюць па даручэнню дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі ў дзяржаўных органах, грамадскіх аб'яднаннях, установах, арганізацыях і на прадпрыемствах дакументы, у тым ліку без чаргі праяўныя дакументы, а таксама інфармацыйныя і даведачныя матэрыялы, неабходныя дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі для ажыццяўлення імі сваіх паўнамоцтваў;

5) аказваюць садзейнічанне дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі ў арганізацыі грамадскіх камісій і праверках, якія праводзяцца імі;

6) выязджаюць па даручэнню дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі ў службовыя камандзіроўкі ў межах Рэспублікі Беларусь;

7) выконваюць іншыя даручэнні дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі, звязаныя з выкананнем імі сваіх паўнамоцтваў.

Памочнікі дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі маюць права:

1) па пісьмовай заяўцы дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі карыстацца капіравальна-размнажальнай і вылічальнай тэхнікай, якая ёсць у распараджэнні дзяржаўных органаў, устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў, размешчаных на тэрыторыі адпаведнай выбарчай акругі, адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі;

2) атрымліваць адрасаваныя дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі паштовыя і тэлеграфныя адпраўленні;

3) прысутнічаць па даручэнню дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі на сесіях мясцовых Саветаў дэпутатаў, пасяджэннях мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, органаў грамадскіх аб'яднанняў, устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў, дзе разглядаюцца пытанні або прапановы выбаршчыкаў, насельніцтва, якія цікавяць дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі, а таксама на мерапрыемствах, што праводзяцца на тэрыторыі выбарчай акругі, адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі;

4) ажыццяўляць іншую дзейнасць па аказанню дапамогі дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі ў ажыццяўленні імі сваіх паўнамоцтваў, калі такая дзейнасць не аднесена заканадаўствам да выключнай кампетэнцыі дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі.

**Артыкул 52. Прыём на работу, умовы, парадак работы і аплаты працы памочнікаў дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі, дадатковыя падставы для спынення працоўнага дагавора**

Парадак прыёму на работу і звальнення з работы, а таксама ўмовы работы памочнікаў дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі рэгулююцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь аб працы, гэтым Законам.

Прыём на работу і звальненне з работы памочнікаў (акрамя выпадку датэрміновага спынення паўнамоцтваў дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі) праводзяцца па прадстаўленню дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі ва ўказаны ў прадстаўленні тэрмін. Адміністрацыя ўстановы, арганізацыі і прадпрыемства абавязана звольніць работніка, які выявіў жаданне перайсці на работу памочнікам дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі, ва ўказаны ў яго заяве і прадстаўленні тэрмін.

Памочнікі дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі па прадстаўленню дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі прымаюцца на работу на пастаяннай аснове або па сумяшчальніцтву распараджэннем кіраўніка адпаведнага мясцовага выканаўчага і распарадчага органа.

Дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі ўстанаўліваецца агульны месячны фонд аплаты працы памочнікаў у памеры стаўкі адной штатнай адзінкі, які вызначаецца адпаведнай палатай.

Расходы на аплату працы памочнікаў дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі і іх утрыманне пакрываюцца ў парадку, вызначаным артыкулам 44 гэтага Закона.

Памочнікі дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі прымаюцца на работу на перыяд, які не перавышае тэрміну выканання паўнамоцтваў дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, членам Савета Рэспублікі. Тэрмін работы памочнікаў вызначаецца дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, членам Савета Рэспублікі і ўказваецца ў прадстаўленні, якое накіроўваецца кіраўніку адпаведнага дзяржаўнага органа.

Працоўны дагавор з памочнікамі дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі да сканчэння тэрміну яго дзеяння можа быць скасаваны:

1) па прадстаўленню дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі;

2) у выпадку датэрміновага спынення паўнамоцтваў дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі.

Памочнікі дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі атрымліваюць пасведчанні адзінага ўзору, устаноўленага для работніка сакратарыята адпаведнай палаты.

***ГЛАВА 5. Адказнасць за невыкананне патрабаванняў гэтага Закона***

**Артыкул 53. Адказнасць за незахаванне законных правоў дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Незахаванне службовымі асобамі і іншымі работнікамі дзяржаўных органаў, органаў грамадскіх аб'яднанняў, устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў законных правоў дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі ці стварэнне ім перашкод у ажыццяўленні парламенцкай дзейнасці, а таксама прадстаўленне ім заведама лжывай інфармацыі або незахаванне ўстаноўленых гэтым Законам тэрмінаў і парадку прадстаўлення інфармацыі і адказаў на запыты і звароты дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі цягнуць адказнасць згодна з дзеючым заканадаўствам.

**Артыкул 54. Адказнасць за неправамернае ўздзеянне на дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі, членаў іх сем'яў і блізкіх сваякоў**

Неправамернае ўздзеянне на дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі, членаў іх сем'яў і блізкіх сваякоў, выяўленае ў выглядзе насілля або пагрозы прымянення насілля, аказанае ў мэтах спынення іх парламенцкай дзейнасці або змянення яе характару, цягне адказнасць згодна з дзеючым заканадаўствам.

**Артыкул 55. Адказнасць за замах на гонар і годнасць дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Знявага дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі, у тым ліку пры выкананні імі сваіх абавязкаў, а таксама паклёп у адносінах да іх ці распаўсюджванне знеслаўляючай інфармацыі аб іх парламенцкай дзейнасці цягнуць адказнасць згодна з дзеючым заканадаўствам.

**Артыкул 56. Адказнасць за парушэнне недатыкальнасці дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Парушэнне палажэнняў гэтага Закона, якія рэгулююць пытанні недатыкальнасці дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі, цягне адказнасць згодна з дзеючым заканадаўствам.

**Артыкул 57. Адказнасць за парушэнне гарантый працоўных правоў дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі**

Парушэнне службовымі асобамі ўстаноўленых гэтым Законам гарантый працоўных правоў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, членаў Савета Рэспублікі, уключаючы дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, членаў Савета Рэспублікі з ліку ваеннаслужачых або іншых асоб, служба якіх рэгулюецца статутамі і палажэннямі, цягне адказнасць згодна з дзеючым заканадаўствам.

***ГЛАВА 6. Заключныя палажэнні***

**Артыкул 58. Асаблівасці статусу дэпутата Палаты прадстаўнікоў, сфарміраванай у адпаведнасці з часткай першай артыкула 143 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь**

Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, сфарміраванай у адпаведнасці з часткай першай артыкула 143 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (далей — дэпутат), захоўваюць свае паўнамоцтвы на працягу чатырох гадоў з дня ўступлення ў сілу Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь са змяненнямі і дапаўненнямі, прынятымі на рэспубліканскім рэферэндуме 24 лістапада 1996 года.

Дэпутат ажыццяўляе пераход на работу на прафесійнай аснове ў Палату прадстаўнікоў на працягу тэрміну сваіх паўнамоцтваў, прадугледжаных Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

Дэпутаты з ліку ваеннаслужачых, асоб радавога і начальніцкага саставу органаў унутраных спраў, якія ажыццяўляюць свае паўнамоцтвы ў Парламенце на прафесійнай аснове, вызваляюцца ад займаемых імі пасад з пакіданнем на ваеннай службе ў органах унутраных спраў на перыяд работы ў Нацыянальным сходзе Рэспублікі Беларусь на ўмовах і ў парадку, што дзейнічаюць для асоб, прыкамандзіраваных да дзяржаўных органаў.

Дэпутату, які не працуе на прафесійнай аснове ў Палаце прадстаўнікоў, выплачваецца даплата да заработнай платы ў памеры розніцы паміж сярэднім заработкам па асноўным месцы работы і грашовым узнагароджаннем дэпутата, які працуе на прафесійнай аснове.

Палажэнні артыкула 3² Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні» ў частцы, якая датычыцца дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, прымяняюцца і ў адносінах да дэпутатаў, што ўвайшлі ў састаў Палаты прадстаўнікоў, з улікам палажэнняў, прадугледжаных артыкулам 41 гэтага Закона.

**Артыкул 59. Уступленне ў сілу гэтага Закона**

Гэты Закон уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Артыкул 60. Прывядзенне нарматыўна-прававых актаў у адпаведнасць з гэтым Законам**

Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

прадставіць ва ўстаноўленым парадку ў Палату прадстаўнікоў прапановы па прывядзенню актаў заканадаўства ў адпаведнасць з гэтым Законам;

прывесці рашэнні Урада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам;

забяспечыць адмену і перагляд міністэрствамі і іншымі падпарадкаванымі Ураду органамі дзяржаўнага кіравання Рэспублікі Беларусь нарматыўных актаў, якія супярэчаць гэтаму Закону.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА**

*4 лістапада 1998 г.,*
*г. Мінск, № 196-З*

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯЎ І ДАПАЎНЕННЯЎ У ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ КАЛЕКТЫЎНЫХ ДАГАВОРАХ І ПАГАДНЕННЯХ»

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 8 кастрычніка 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 22 кастрычніка 1998 года*

**Артыкул 1.** Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь ад 24 лістапада 1992 года «Аб калектыўных дагаворах і пагадненнях» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 32, арт. 517; 1994 г., № 35, арт. 575) наступныя змяненні і дапаўненні:

1. Частку першую артыкула 2 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Пагадненне — нарматыўны акт, які змяшчае абавязацельствы бакоў па рэгуляванню адносінаў у сацыяльна-працоўнай сферы на ўзроўні вызначанай прафесіі, галіны, тэрыторыі».

2. Частку другую артыкула 4 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Генеральнае пагадненне з'яўляецца асновай для тарыфных і мясцовых пагадненняў, калектыўных дагавораў».

3. У абзацы другім часткі чацвёртай артыкула 5 словы «Кабінет Міністраў» замяніць словамі «Савет Міністраў».

4. Частку першую артыкула 6 пасля слова «бакамі» дапоўніць словамі «ў адпаведнасці з генеральным, тарыфным і мясцовым пагадненнямі (пры іх наяўнасці)».

5. У частцы другой артыкула 7:

абзац трэці выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«асноўных крытэрыях жыццёвага ўзроўню работнікаў і членаў іх сем'яў, у тым ліку мінімальным спажывецкім бюджэце, памерах мінімальнай заработнай платы, пенсій, дзяржаўных дапамог, стыпендый»;

у абзацы пятым слова «грашовых» замяніць словам «дзяржаўных».

6. Артыкул 9 дапоўніць новай часткай наступнага зместу:

«У тэксце калектыўнага дагавора, пагаднення не павінна быць паправак і памылак, якія скажаюць іх сэнс».

7. У частцы другой артыкула 13 словы «Кабінетам Міністраў» замяніць словамі «Саветам Міністраў».

8. У артыкуле 15 слова «імі» замяніць словам «бакамі».

9. Артыкул 17 дапоўніць сказам наступнага зместу: «Спосабы і парадак інфармавання вызначаюцца бакамі».

**Артыкул 2.** Гэты Закон уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА**

*4 лістапада 1998 г., г. Мінск, №199-З*

## ТОЛЬКІ ФАКТ

Апошнія даследаванні Яўрэйскага універсітэта ў Іерусаліме паказалі, што найбольш шматлікую **групу імігрантаў у Ізраілі** складаюць былыя грамадзяне Савецкага Саюза. З 1989 года ў яўрэйскую дзяржаву прыбыло 750 тысяч імігрантаў з былых савецкіх рэспублік. Усяго ж калонія «рускіх яўрэяў» налічвае 900 тысяч чалавек, што складае прыкладна адну сёмую насельніцтва Ізраіля.

Якія спецыялісты спатрэбяцца краіне ў новым тысячагоддзі? Вучоныя расійскай Акадэміі прагназіравання лічаць, што на **2003—2005** гады прыпадзе пік патрэбнасцяў у хіміках, спецыялістах па стварэнню і павышэнню якасці прадуктаў харчавання. У **2008—2010** гадах адчуецца бум на прафесіі, якія звязаны з лясной гаспадаркай. А ў **2010** годзе пачне нарастаць патрэбнасць у спецыялістах па маніторынгу, кіраванню навакольным асяроддзем.

Сёння **за мяжой вучацца** 135 беларускіх студэнтаў дзяржаўных ВНУ.

Паводле даных Міністэрства сацыяльнай абароны, толькі за мінулы год у рэспубліцы **сталі сіротамі** каля шасці тысяч дзяцей.

# УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 532

## АБ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ СЛУЖБЕ СУДОВА-МЕДЫЦЫНСКАЙ ЭКСПЕРТЫЗЫ

У мэтах развіцця судова-медыцынскай экспертызы і павышэння яе ролі ў барацьбе са злачыннасцю **пастанаўляю:**

1. Пераўтварыць Дзяржаўную службу судова-медыцынскай экспертызы пры Міністэрстве аховы здароўя ў Беларускую дзяржаўную службу судова-медыцынскай экспертызы (далей — Служба судова-медыцынскай экспертызы).

2. Устанавіць, што:

Служба судова-медыцынскай экспертызы з'яўляецца дзяржаўнай установай, якая падпарадкоўваецца Ураду Рэспублікі Беларусь, забяспечвае ўсе віды судова-медыцынскай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь, распрацоўвае і ажыццяўляе ў межах сваёй кампетэнцыі меры па развіццю і ўдасканаленню судова-медыцынскай навукі і практыкі, праводзіць падрыхтоўку высокакваліфікаваных спецыялістаў у галіне судовай медыцыны;

Службу судова-медыцынскай экспертызы ўзначальвае Галоўны дзяржаўны судова-медыцынскі эксперт Рэспублікі Беларусь, які назначаецца на пасаду і вызваляецца ад пасады Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь ва ўстаноўленым парадку;

цэнтральная судова-медыцынская лабараторыя Міністэрства абароны па арганізацыйна-метадычных пытаннях падпарадкоўваецца Галоўнаму дзяржаўнаму судова-медыцынскаму эксперту Рэспублікі Беларусь.

3. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у двухмесячны тэрмін:

прыняць меры, накіраваныя на рэалізацыю гэтага Указа;

распрацаваць і зацвердзіць Палажэнне аб Беларускай дзяржаўнай службе судова-медыцынскай экспертызы і вызначыць сістэму аплаты працы работнікаў Службы судова-медыцынскай экспертызы;

прывесці рашэнні Урада і падпарадкаваных яму рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання ў адпаведнасць з гэтым Указам.

4. Дапоўніць Пералік аб'яднанняў (устаноў), падпарадкаваных Ураду Рэспублікі Беларусь, прыкладаемы да Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 11 студзеня 1997 г. № 30 «Аб сістэме рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, падпарадкаваных Ураду Рэспублікі Беларусь» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 1, арт.28; № 15, арт.535; № 17-18, арт.618; № 20, арт.693; 1998 г., № 25, арт.641), пасля абзаца дзесятага абзацам наступнага зместу:

«Беларуская дзяржаўная служба судова-медыцынскай экспертызы».

5. Прызнаць страціўшым сілу Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 28 студзеня 1997 г. № 112 «Аб Дзяржаўнай службе судова-медыцынскай экспертызы пры Міністэрстве аховы здароўя» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 3, арт.115).

6. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

*6 лістапада 1998 г., г.Мінск.*

*Сваіго даўняга, добрага і надзейнага сябра, шчырага дарадцу «Звязды» Аляксандра ГРЫГАРАВА віншую з 50-гадовым юбілеем! Дай Бог табе здароўя, новых набыткаў і здзяйсненняў на спартыўнай ніве Рэспублікі Беларусь!* **Анатоль МЯСНІКОЎ.**

# УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 527

## Аб унясенні дапаўненняў і змяненняў ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 сакавіка 1998 г. № 157

1. Унесці ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 сакавіка 1998 г. №157 «Аб дзяржаўных святах і святочных днях у Рэспубліцы Беларусь» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1998 г., № 9, арт.223; № 18, арт.470) наступныя дапаўненні і змяненні:

1.1. у падпункце 2.3.1 пункта 2:

абзац трэці пасля слова «банкаўскага» дапоўніць словамі: «і фінансавага»;

абзац дзесяты пасля слова «Дзень» дапоўніць словам «работнікаў»;

пасля абзаца пятнаццатага дапоўніць падпункт абзацам наступнага зместу:

«Дзень работнікаў падатковых органаў - другая нядзеля ліпеня»;

абзацы шаснаццаты — дваццаць пяты лічыць адпаведна абзацамі семнаццатым — дваццаць шостым;

у абзацы дваццаць другім словы: «і газавай прамысловасці» замяніць словамі: «газавай і паліўнай прамысловасці»;

пасля абзаца дваццаць шостага дапоўніць падпункт абзацамі наступнага зместу:

«Дзень работніка культуры — другая нядзеля кастрычніка;

Дзень работнікаў фармацэўтычнай і мікрабіялагічнай прамысловасці - 15 кастрычніка»;

абзац дваццаць дзевяты пасля слова «аўтамабіліста» дапоўніць словамі: «і дарожніка»;

пасля абзаца дваццаць дзевятага дапоўніць падпункт абзацам наступнага зместу:

«Дзень работнікаў грамадзянскай авіяцыі — першая нядзеля лістапада»;

абзацы дваццаць сёмы — трыццаты лічыць адпаведна абзацамі трыццаць першым — трыццаць чацвёртым;

1.2. пункт 3 пасля абзаца трэцяга дапоўніць абзацам наступнага зместу:

«Дзень ведаў — 1 верасня»;

1.3. абзац першы пункта 4 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«4. Аб'яўляюцца нерабочымі днямі».

2. Гэты Указ увесці ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭНКА.**

4 лістапада 1998 г. г.Мінск.

# КІРМАШ



ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 44 (162)


## РОЗНАЕ

■ Куплю «МТЗ-82» б/к або абмяняю на л/аўтамабіль. *Тэл. (8-017) 258-34-64.*

■ Шукаю спонсара для выпуску кнігі. Разгледжу вашы прапановы. *Тэл. у Слуцку 7-23-35, увечары.*

■ Тэрмінова куплю жыллё ў Гродне, Лідзе да 6 тыс. у.а. У дадатак — «ВАЗ». *Тэл. (8-017) 502-78-90.*

■ Куплю цагляны дом у вёсцы Лагойскага ці Дзяржынскага раёна, нядорага. *Звяртацца: 220049, г. Мінск, вул. Кедышкі, 5-39.*

■ Шукаю работу, адукацыя сярэдняя юрыдычная, маю кваліфікацыю сакратара-машыністкі. *Звяртацца: 222656, Клецкі раён, в. Якшыцы, вул. Школьная, 24.*

■ Мяняю дом у Лепелі Віцебскай вобл. на жыллё ў Гомелі або Рэчыцы. *Тэл. (8-02132) 4-80-71.*

■ Прадаю ці мяняю на кватэру ў Нясвіжы дом 6х11 з г/пабудовамі (газ, вада, тэлефон, участак 6 сотак) у Слоніме. *Тэл. у Нясвіжы 2-04-05.*

■ Куплю трактар «Т-25» у любым стане. *Тэл. у Глыбокім: (8-02156) 2-48-84, 2-12-65.*

■ Прадаю 3-пакаёвую кватэру ў цэнтры г. Мар'іна Горка або мяняю на 1-пакаёвую з даплатай. *Тэл.: 5-16-71, 5-04-18.*

■ Мяняю 2-пакаёвую кватэру ў Івацэвічах на 1-пакаёвую ў Гродне. *Тэл. у Івацэвічах 2-12-51.*

■ Рамонт л/а, замена тэхнічных вадкасцяў у цэнтры горада, нядорага. *Тэл. 274-35-42.*

■ Прадам або абмяняю на кватэру ў г. Мінску цагляны дом з выгодамі, гаражом, г/пабудовамі, участкам 10 сотак у г. Быхаве. *Тэл. у Быхаве (8-02231) 2-15-04, у Смалявічах — 5-53-70.*

■ Куплю дзверы уваходныя філенчатыя з абсадай (210х90) нядорага. *Тэл. у Мінску 246-40-28.*

*Сардэчна віншуем з днём шлюбу Міхаіла Іванавіча Харта і Святлану Мікалаеўну Русіновіч. Жадаем моцнага здароўя, узаемнага кахання, шчасця і дабрабыту.*

**Родныя,**
в. Кіцін Жлобінскага раёна.







## ПРАДАЕЦЦА

● Трактар самаробны «Т-25», ёсць вось і колы да прычэпа; «УАЗ-469» на з/ч *тэл. у Глыбокім 3-44-38, 2-15-49*

● Дом з г/пабудовамі ў Нясвіжскім раёне *тэл. у Дзяржынску, 4-01-48 да 17, Зоя Уладзіміраўна.*

● «ВАЗ-21074» 1997 г.в., сігналізацыя, КПП-5, 4500 у.а. *тэл. (8-01775) 2-68-14*

● Касавы апарат «Мікра-101» б/к, 300 у.а., торг *тэл. (8-01597) 7-16-97*

● Палова дома з г/пабудовамі *тэл. у Навагрудку 2-04-00*

● «ВАЗ-21063» 1988 г.в., зялёны, антыкаразійная апрацоўка, у дадатак лабавое шкло, глушыцель *тэл. у Беразіно 5-46-18*

● «VW-Гольф-2» 1,6 л, дызель на з/ч, маюцца дакументы *тэл. у Барысаве 4-29-52*

● «Міцубісі-Кольт» 1984 г.в., у добрым стане, у дадатак рухавік на з/ч, 1300 у.а. *тэл. у Бярэзінскім раёне 5-32-15*

● «Таўрыя» 1990 г.в., маюцца з/ч *тэл. у Дзяржынску 5-44-60*

● Устаноўка для вытворчасці ячных круп *тэл. (8-017) 299-15-43*

● Акардэон «Альтаір» б/к, Мінск *тэл. 270-61-02, увечары.*

● Кватэра 3-пакаёвая з усімі выгодамі ў г. п. Карэлічы. Магчымы варыянты абмену на г. Слонім. *Тэл. у Карэлічах 2-25-36.*

● «МТЗ-80УК», новы. *Тэл. (8-017) 258-34-64.*

● Кватэра 4-пакаёвая ў г. Талачыне Віцебскай вобл., маецца ўчастак, тэлефон — 8500 у.а. *Тэл. (8-02136) 2-10-60.*

● Кватэра 3-пакаёвая (2-гі паверх, водаправод, каналізацыя, гараж, хлеў) у в. Гальшаны Ашмянскага раёна. *Тэл. у Ашмянах 4-14-04.*

● Новая касілка да мотаблока — цана па дамоўленасці, КПП «F-16» да аўтамабіля «Опель-Кадэт» 1986 г.в., дызель. *Тэл. у Лепелі 2-32-28.*

● «ГАЗ-53» фургон, трактар «ДТ-74», «Т-16», танна. *Тэл. у Лагойску 5-43-63, з 8 да 17.*

● «Форд-Сіера» 1986 г.в., 1,6 л, чырвоны, з Германіі. Цана 1450 у.а. *Тэл. у Мядзельскім раёне 4-61-98.*

● Рухавік да «ГАЗ-24» на з/ч оптам. *Тэл. у Любані 5-60-53.*

● Жорны з электрапрыводам, 50 у.а. *Звяртацца: 223123, в. Ст. Чарнява, д. 15 Лагойскага раёна, Бычкоўскаму М. І.*

● Лабавое шкло да «ГАЗ-24» і «ГАЗ-66» новы; бетонамяшалка новая. *Звяртацца: 220049, г. Мінск, вул. Кедышкі, 5-39.*

● «М-412» 1984 г.в., капрамонт рухавіка 1994 г., гаражнае захоўванне, у добрым стане, цана па дамоўленасці. *Тэл. у Бабруйску 58-40-50.*

● TV-антэны са 100-кратным сілкаваннем. *Тэл. у Мінску 224-69-42.*

● «Масквіч-2141» 1990 г.в., прабег 75 тыс. км — 1100 у.а. *Тэл. у Светлагорску 2-36-49.*

● «Масквіч-2140» 1985 г.в., капрамонт 1997 г., у добрым стане — цана па дамоўленасці. *Тэл. у Клецкім раёне 4-45-46.*

● «Мерседэс-200», дызель, прабег 200 тыс. км, зялёны, 1988 г.в. *Тэл. у Слуцкім раёне 9-61-50.*

● Дабротны драўляны дом у Лепелі (новыя прысядзібныя пабудовы, усе зручнасці). Магчымы абмен на іншы горад. *Тэл. у Мінску 244-51-93.*

● «ЗІЛ-ММЗ-45021» 1987 г.в., самазвал. *Тэл. у Карэлічах 2-37-40.*

● Тэрмінова дом у в. Осава Асіповіцкага раёна, маюцца г/пабудовы. *Тэл. у Асіповічах 2-79-43.*

● Шыны 370х508 (да «Урала») 2 шт. Стартэр да «ВАЗ» б/к, нядорага. *Тэл. (8-254) 2-44-15, пасля 18.*

● «VW-Пола» 1984 г.в., бензін, 4 л/100 км, чырвоны — 2500 у.а. *Тэл. у Валожыне 5-82-90, пасля 19.*

● «ВАЗ-2103» 1978 г.в., капрамонт 1998 г. *Тэл. у Расонах 2-66-80.*

● Кватэра (палова дома) з усімі выгодамі ў в. Людвінова Вілейскага раёна, маецца хлеў, гараж, участак 8 сотак. *Тэл. у Вілейцы 5-58-05.*

● Цагляны дом у Вілейцы з усімі г/пабудовамі. *Тэл. 5-29-02.*

● Цагляна-блочны дом 8х11, панельна-блочныя г/пабудовы, гараж, агарод 20 сотак, танна. *Тэл. у Шаркаўшчыне 2-10-34.*

● «Фіят-125Р», нерастаможаны, 1979 г.в. — 250 у.а., або абмяняю на каляровы тэлевізар ці маразільную камеру; «ГАЗ-66» з кунгам 1985 г.в. — 1300 у.а. *Тэл. у Барысаўскім раёне 7-95-31, акрамя нядзелі.*

● Кватэра 2-пакаёвая, прыватызаваная, у Валожыне. *Тэл. 5-52-89, 54-4-89, да 17.*

● Паліто жаночае, скуранoе, новае (46/48—170), вытворчасць Пакістана. *Тэл. 258-69-39.*

● Матацыкл «ІЖ-3к» з 1-цыліндравым новым рухавіком — 130 у.а. *Тэл. (8-01592) 3-63-92.*

● Дом у в. Слабада Глыбоцкага раёна, танна. *Тэл. у Докшыцах 2-16-54, да 17. Лена.*

● Халадзільнік «Мінск-16» б/к у добрым стане. *Тэл. 255-08-10.*

● Дача на беразе Нарачанкі, маецца лазня, калодзеж (15 км ад Вілейкі). *Тэл. (8-271) 5-35-95.*

● Натуральны алей аўстралійскага чайнага дрэва, какава. *Тэл. 253-92-26.*

● Дом недабудаваны 2-павярховы; бензапіла шведская, зруб на лазню. *Тэл. у Барысаве 3-98-89 (увечары).*

● «Аудзі-80», дызель 1986 г.в. *Тэл. у Слуцку 2-07-86 пасля 18.*

● «ВАЗ-21074» 1996 г.в. у Новалукомлі — цана дагаворная. *Тэл. (8-02133) 3-74-46.*

● Запчасткі да «ГАЗ-2410», шкло, абшыўка, панель з прыборамі і інш. *Тэл. у Слуцкім раёне 7-41-81.*

● «Опель-Аскона» 1986 г.в., дызель — 2500 у.а. *Тэл. у Жыткавічах 6-11-65 (Наталля з 24-й, да 17).*

● Аўтаматыка для газавага катла, танна. *Тэл. у Мазыры 3-71-35.*

● «ВАЗ-21091» 1995 г.в. *Тэл. у Бярозе 4-11-50.*

● Кватэра 2-пакаёвая (2 зашклёныя лоджыі) у пас. Чысць Маладзечанскага раёна. *Тэл. (8-273) 9-04-66.*

● Міні-пiларама «Хускаварна» (Швецыя) б/к 6 месяцаў з заточным станком для пілаў. *Тэл. у Гомелі (8-0232) 45-33-71, пасля 19.00.*

● «ЗАЗ» (30 к.с.), шыны 155/70 б/к, танна; хамут, ванна стальная эмаліраваная; помпа «Ручаёк». *Тэл. у Карэлічах 2-91-58.*

● «ВАЗ-21074» 1997 г.в., сігналізацыя, фаркоп — 4500 у.а. *Тэл. у Жодзіне (8-01775) 2-68-14.*

● Дом, г/пабудовы, гараж, калодзеж, сад у пас. Дабрынь (5 км ад Ельска) або абмяняю. *Тэл. (8-01592) 5-11-19.*

● Дом з г/пабудовамі ў в. Раманаўшчына Мядзельскага раёна. *Тэл. 3-82-63.*

● Тэрмінова цагляны дом з усімі выгодамі ў Лепельскім раёне. *Тэл. у Вілейцы 5-22-90 да 17.*

● Дом з г/пабудовамі, участак 40 сотак у Лагойскім раёне. *Тэл. 5-43-66, пасля 17.00.*

● «Форд-Сіера», 1,5 л, 1983 г.в., растаможаны. *Тэл. у Нясвіжскім раёне 5-66-69.*

*Віншуем Лідзію Мікалаеўну КАРАМАЗАВУ з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, радасці і поспехаў у штодзённым жыцці і ў працы і заставацца такой жа маладой, прыгожай і пяшчотнай.*

*Яна — ласкавая, руплівая матуля,*
*Цярплівая і шчырая бабуля,*
*Спагадлівая, ветлівая цешча,*
*А колькі ж гора і нягод ў жыцці ты перанесла!*
*Яна такая моцная, што ўсё перамагае,*
*І ўсім нам шчыра, ад душы дапамагае.*

**З павагай і любоўю муж, сын, дачка, зяць, унукі.**



**ШУКАЮ РАБОТУ З ЖЫЛЛЁМ.** *Медсястра, стаж 21 год.* ЗВЯРТАЦЦА: ***223831, г.п. Урэчча, вул. Валадарскага, 4, Любанскага раёна, Лаўрыновіч Валянціне.***





## Асабістае жыццё

**Аб. 898.** Удава, 38 гадоў, матэрыяльна забяспечаная, пазнаёміцца з мужчынам 40—45 гадоў, непітушчым, пажадана ўдаўцом (Магілёўская вобл.).

**Аб. 899.** Для стварэння сям'і пазнаёмлюся з жанчынай 27—36 гадоў з Мінска. Дзіця не перашкода. Аб сабе: 31 год, 180/78, разведзены. Астатняе пры перапісцы.

**Аб. 900.** Пазнаёмлюся з добрым вясёлым хлопцам. Аб сабе: Вольга, 16/173/65, па гараскопу Рак. З месцаў зняволення не пісаць (Гродзенская вобл.).

**Аб. 901.** Шукаю жонку, адзінокую жанчыну. Аб сабе: Уладзімір, 63 гады, рост 170, адукацыя вышэйшая, куру, маю жыллё. Гарантую ўзаемнасць і павагу (Кіраўск).

**Аб. 902.** Жанчына, 41/164/62, пазнаёміцца з мужчынам без ш/звычак, пажадана ўдаўцом, жыву ў вёсцы Мінскай вобл. Двое дзяцей.

**Аб. 903.** Сціплая жанчына, 54 гады, матэрыяльна слаба забяспечаная, пазнаёміцца з матэрыяльна забяспечаным мужчынам для стварэння сям'і (г. Ст. Дарогі).

**Аб. 904.** Пазнаёмлюся з мужчынам 48—55 гадоў для стварэння сям'і (самыя сур'ёзныя намеры) з сельскай мясцовасці, без ш/звычак, згодным на пераезд (халасцяком ці ўдаўцом). Мне 48 гадоў, разведзеная, жыву ў вёсцы, дзеці асобна (Брэсцкая вобл.).

**Аб. 905.** Алег, 25 гадоў, высокі, звычайнага целаскладу, без ш/звычак, жыву ў сельскай мясцовасці, пазнаёмлюся з добрай дзяўчынай ці жанчынай (можна з дзіцем) для стварэння сям'і (Віцебская вобл.).

**Аб. 906.** Пазнаёмлюся з дзяўчынай да 23 гадоў. Аб сабе: 22/176/59, па гараскопу Дзева, без ш/звычак (г. Слуцк).

**Аб. 907.** Сімпатычная дзяўчына пазнаёміцца з мужчынам да 30 гадоў. Жадаю пазбавіцца ад адзіноты. Пішыце: 222310, г. Маладзечна, да запатрабавання пашпарт ДР 736000.

**Аб. 908.** Самастойны мужчына 48 гадоў (не п'ю і не куру) пазнаёміцца з жанчынай да 50 гадоў ростам да 157 см для суменага жыцця. Згодны на пераезд.

**P.S.** *Для атрымання звестак аб абаненце не забудзьце прыслаць канверт са зваротным адрасам.*

## ВІНШАВАННІ

*Сардэчна віншуем дарагіх тату і маму, дзядулю і бабулю,* ***Марыю Пятроўну і Міхаіла Іосіфавіча Мілеўскіх,*** *з залатым вяселлем. Жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця.*

**Дзеці і ўнукі,** г. Чэрвень.

*Любую ўнучку* ***Таццяну Старавойтаву*** *з в. Хаценчыцы віншуем з днём нараджэння. Жадаем добрага здароўя, шчасця, радасці, поспехаў у вучобе.*

**Дзядуля і бабуля Гурскія,** г. Масты.

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння мілую мамачку, ласкавую бабулю* ***Міру Іванаўну Коцік*** *з в. Вераб'евічы Навагрудскага раёна. Жадаем шчасця, радасці і добрага здароўя на доўгія гады.*

**Дачка, сын, зяць, унукі.**

*Віншуем любімую жонку, матулю і бабулю* ***Марыю Мікалаеўну Купрас*** *з днём нараджэння.*

*Часу праляцела ўжо нямала.*
*Дзеці выраслі і ўнукі падраслі.*
*З днём нараджэння,*
*наша дарагая,*
*Самая родная на ўсёй зямлі.*

**Муж, дзеці, унукі,** в. Палужжа.

*Дарагую* ***Ірыну Аляксееўну Жмуро*** *з г. Навагрудка віншуем з 35-годдзем. Жадаем моцнага здароўя, вясёлага святочнага настрою і ўсяго самага найлепшага ў жыцці.*

**Дзядуля, мама і сям'я Бердыгулавых.**

*Шчыра віншуем* ***Любоў Васільеўну Карцель*** *з в. Вясея Слуцкага раёна з 65-годдзем. Жадаем здароўя, шчасця, дабрабыту і даўгалецця.*

**Родныя** з в. Ісерна.

*Шчыра віншуем з залатым вяселлем* ***Сяргея Сцяпанавіча і Любоў Паўлаўну Валенцюкевічаў*** *з г. Навагрудка. Дай Бог шчасця, бадзёрасці, моцнага здароўя на доўгія гады.*

**Сястра Алена, пляменніца Тамара з сям'ёй.**

*З днём нараджэння віншуем дарагога татачку і дзядулю* ***Міхаіла Мікалаевіча Жука*** *з в. Харосіца.*

*Хай будзе ў хаце тваёй свята,*
*Нягоды пройдуць стараной.*
*Здароўя, шчасця, дабрабыту*
*Жадаем мы усёй сям'ёй.*

**Жонка, дзеці, унучка.**

Згублены дыплом N 460361, выдадзены Лунінецкім СПТВ-160 на імя Рудніцкага Сяргея Леанідавіча, **лічыць несапраўдным.**

**Мяняю 2-пакаёвую кватэру ў Смаленску на Мінск.** ***Тэл. (017) 232-56-39.***

*Што і казаць, разбэсціла нас не такое ўжо і далёкае мінулае. Асабліва што датычыцца энергазберажэння. Ну навошта было таму канструктару ламаць галаву, каб зэканоміць лішні грам паліва, калі літр яго каштаваў сем капеек? Тое ж самае і з электрычнасцю. Пакуль увесь свет жыў у цісках вострага энергетычнага крызісу, мы, што называецца, купаліся ў гэтай самай энергіі. Ці да эканоміі было, калі кілават-гадзіна яе каштавала ўсяго капейку? Спахапіліся параўнальна не так даўно, калі цэны на энергарэсурсы падскочылі ў тысячы разоў і наблізіліся да сусветных, а праблема ашчаднага выкарыстання стала настолькі злабадзённай, што ёй надалі дзяржаўнае значэнне. Гэтаму прысвечаны і Закон Рэспублікі Беларусь «Аб энергазберажэнні», і Пастанова Савета Міністраў «Аб мерах па ўзмацненню работы па рэалізацыі энергазберагальнай палітыкі ў Рэспубліцы Беларусь», і іншыя дзяржаўныя акты. А вось аб тым, як праграма энергазберажэння ажыццяўляецца на практыцы, не так даўно давялося пераканацца, калі разам з удзельнікамі савета РМП «Белсельгасэнерга» пабывалі ў шэрагу гаспадарак Шчучынскага і Мастоўскага раёнаў. Нямала цікавага і карыснага ўбачылі там. Ва ўсякім разе, эфектыўнасць работы, якую распачалі сельскія энергетыкі, усяляе ўпэўненасць у тым, што справа энергазберажэння нарэшце зрушылася з месца. Пра гэта мы і папрасілі расказаць генеральнага дырэктара РМП «Белсельгасэнерга», кандыдата эканамічных навук Пятра ХАРКЕВІЧА.*



*Гэта ГЭС у Ваўкавыскім раёне дае танную электраэнергію.*

*Пётр ХАРКЕВІЧ:*

# «СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ — ЭНЕРГАЗБЕРАГАЛЬНЫЯ ТЭХНАЛОГІІ»

— Сапраўды, і гэта паездка, і сустрэчы на месцах яшчэ раз пацвердзілі, што мы на правільным шляху, — зазначае Пётр Ягоравіч. — Асабліва вялікія рэзервы ў энергетычным забеспячэнні сельскай гаспадаркі. Сёння ў калгасах і саўгасах рэспублікі каля 18,6 тысячы катлоў. Большасць з іх старой канструкцыі, чыгунныя. Ды і каэфіцыент карыснага дзеяння іх каля 50 працэнтаў. У той жа час і ў Гомелі, і ў Мазыры, і на Віцебшчыне, а таксама на прадпрыемстве РМП «Белсельгасэнерга» наладжаны выраб куды больш эканамічных стальных катлоў з каэфіцыентам карыснага дзеяння больш як 80 працэнтаў. У прыватнасці, сельскія энергетыкі Мастоўскага раёна актыўна прыступілі да замены чыгунных катлоў на сталёвыя. Так, у кацельні школьнай сталовай, што ў вёсцы Малькавічы, спецыялісты Мастоўскага райаграпрамэнерга зманціравалі кацёл КВТС, які выраблены ў г. п. Бешанковічы. Нават цяжка ўявіць сабе, якую каласальную эканомію паліва ў маштабах рэспублікі дасць поўная замена састарэлых катлоў на больш высокапрадукцыйныя.

**— Як высветлілася, нейкі дужа шматабяцальны эксперымент пачалі спецыялісты Мастоўскага райаграпрамэнерга ў калгасе «Дубна». Справа датычыцца мантажу спецыяльнай падлогі з падагрэвам на мясцовым свінакомплексе. Якая эфектыўнасць новаўвядзення?**

— Як вядома, без спецыяльнага падагрэву, асабліва ў асенні і зімовы час, немагчыма атрымаць здаровага прыплоду свіней. Звычайна для гэтага выкарыстоўваюць спецыяльныя электралямпы, з-за чаго адбываецца значны перарасход электраэнергіі. І вось спецыялісты Мастоўскага райаграпрамэнерга вырашылі скарыстаць больш прагрэсіўную тэхналогію падлогі з падагрэвам. У выніку штодзённа эканоміцца прыкладна 400 кілават-гадзін электраэнергіі. Тэрмін акупнасці недзе каля 1,9 года. Перавод большасці свінагадоўчых комплексаў рэспублікі на новую тэхналогію дазволіць штогод эканоміць многія мільёны кілават-гадзін электраэнергіі, палепшыць захаванне маладняку жывёлы.

**— Вялікую цікавасць ва ўсіх удзельнікаў выязнога пасяджэння савета РМП «Белсельгасэнерга» выклікала ўстаноўка па гідрапнеўматычнаму прамыванню ацяпляльнай сістэмы. Яе сканструявалі і зрабілі спецыялісты Шчучынскага райаграпрамэнерга...**

— Трэба сказаць, што сельскія энергетыкі Шчучынскага раёна найбольш актыўна ўзяліся за ўкараненне энергазберагальных тэхналогій. Возьмем тую ж устаноўку па гідрапнеўматычнаму прамыванню ацяпляльнай сістэмы. Яе распрацавалі і зрабілі мясцовыя ўмельцы разам з галоўным інжынерам Анатолем Рымко. І наогул, трэба аддаць належнае Анатолю Яўгенавічу, які і па ўзроўню тэхнічнай падрыхтоўкі, і па арганізатарскіх здольнасцях — адзін з лепшых інжынераў сістэмы. На яго рахунку мноства цікавых распрацовак, якія з поспехам выкарыстоўваюцца сельскімі энергетыкамі Гродзеншчыны ды і рэспублікі. Вось і гэтую самую ўстаноўку ён з аднадумцамі распрацаваў і сканструяваў у самыя сціслыя тэрміны, амаль без усякіх дадатковых затрат, што называецца, з дапамогай падручных сродкаў. Усяго за некалькі гадзін з дапамогай установкі можна прамыць ацяпляльную сістэму, у тым ліку і батарэі. У выніку цеплааддача сістэмы значна ўзрастае. Сама ж устаноўка акупляецца ўсяго за некалькі месяцаў эксплуатацыі. Дарэчы, сёлета з яе дапамогай удалося прамыць ацяпляльныя сістэмы ў некалькіх школах раёна.



*Генеральны дырэктар РМП «Белсельгасэнерга» Пётр ХАРКЕВІЧ.*

Не абмінулі ўвагай удзельнікі савета і новую сушылку для піламатэрыялаў, што зманціравана на цэнтральнай базе Шчучынскага райаграпрамэнерга. У чым яе навізна? Справа ў тым, што замест традыцыйнага каларыфера магутнасцю каля 300 кілават тут устаноўлены кацёл, палівам для якога служаць адходы: дровы, трэскі, нават пілавінне. А ў перспектыве запланавана зманціраваць газагенератар, які будзе працаваць на тых жа адходах піламатэрыялаў.

**— Мы гаворым усё больш пра катлы вялікай магутнасці, што выкарыстоўваюцца ў кацельнях. Але ж не менш праблем і з тымі агрэгатамі, якія прызначаны для ацяплення індывідуальнага жылля. Якія захады прымаюць сельскія энергетыкі для вырашэння гэтай праблемы?**

— На цэнтральным прадпрыемстве РМП «Белсельгасэнерга» наладжаны выпуск спецыялізаваных катлоў КВТ-50, што прызначаны менавіта для ацяплення індывідуальнага жылля. Іх магутнасці хапае для ацяплення памяшканняў агульнай плошчай да 500 квадратных метраў. Сёлета ўжо выпушчана і змацiравана каля 85 такіх катлоў. Іх хапае, каб забяспечыць цяплом даволі вялікі жылы дом, катэдж, з поспехам выкарыстоўваюцца яны і для ацяплення мехмайстэрань, іншых памяшканняў чыста гаспадарчага прызначэння. Распрацавалі і асвоілі таксама выпуск катлоў КВТ-25 для адносна невялікіх дамоў і дач. Іх магутнасці дастаткова для ацяплення дома агульнай плошчай каля 250 квадратных метраў. Яны вельмі эканамічныя, разлічаны на брыкет, дровы, дробныя шчэпкі. Дарэчы, гэта наш уклад у ажыццяўленне прэзідэнцкай праграмы па будаўніцтву жылля для вёскі.

**— Вельмі спадабаліся ўсім і энергазберагальныя свяцільнікі, якія дэманстравалі спецыялісты Шчучынскага райаграпрамэнерга...**

— Так, за гэтымі свяцільнікамі — будучыня. Дастаткова сказаць, што 9-ватная лямпа дае столькі святла, як звычайная 60-ватная. Шасціразовая эканомія электраэнергіі! Ды і служыць яна ў некалькі разоў больш. Менавіта вытворчасць новых свяцільнікаў на аснове энергазберагальных лямпаў з поспехам пачалі ўжо ў сістэме «Белсельгасэнерга». Адно стрымлівала — няхваткі гэтых самых лямпаў, бо ў рэспубліцы іх ніхто не выпускае, даводзіцца закупляць за мяжой. На ўсё гэта патрэбна валюта, якой і без таго не хапае. Але, здаецца, і гэта праблема ў хуткім часе будзе вырашана. Ужо не першы месяц вядзём перамовы з чэшскай фірмай «Тэсла», якая якраз займаецца вытворчасцю энергазберагальных лямпаў, Ёсць і пэўная дамоўленасць аб арганізацыі сумеснай вытворчасці. Цяпер распрацоўваюцца адпаведныя дакументы. А ўвогуле пераход на энергазберагальныя лямпы дасць магчымасць штогод эканоміць сотні мільёнаў кілават-гадзін электраэнергіі.

**— Як вядома, у 1996 годзе была распрацавана і адобрана ўрадам Рэспубліканская праграма па энергазберажэнню да 2000 года. Які канкрэтна ўклад у яе рэалізацыю ўносяць сельскія энергетыкі?**

— Як ужо адзначалася, мы цяпер актыўна вядзём замену састарэлых чыгунных катлоў на больш высокапрадукцыйныя сталёвыя, якія самі вырабляем і манціруем. Прычым адначасова ажыццяўляецца іх перавод на мясцовыя віды паліва (дровы, торф, адходы піламатэрыялаў). Многае ў плане эканоміі рэсурсаў дасць замена дзеючых цяпер электракатлоў на катлы, якія працуюць на мясцовым паліве. І такіх катлоў у рэспубліцы каля 2,5 тысячы. Вялікі эканамічны эфект абяцае так званая дэцэнтралізацыя забеспячэння сельскагаспадарчых аб'ектаў з укараненнем газагенератарных установак, якія будуць працаваць на мясцовым паліве. Плануецца таксама ўкараненне аўтаматычных рэгулятараў і сістэм праграмнага рэгулявання цеплавой энергіі. Скажам, сям'і трэба кудысьці паехаць. Навошта падтрымліваць тэмпературны рэжым у пакоях 18—20 градусаў, калі можна запраграміраваць кватэру недзе на 6—8 градусаў цяпла. А ўкараненне прыбораў камерцыйнага ўліку цеплавой энергіі і вады дазволіць многім гаспадарам больш ашчадна карыстацца гэтымі выгодамі. Вялікія надзеі ўскладваюцца на ўкараненне энергазберагальных свяцільнікаў. Ужо ў недалёкай будучыні ў Брэсце пачне дзейнічаць сумеснае з чэшскай фірмай «Тэсла» прадпрыемства па вытворчасці энергазберагальных лямпаў. А самі свяцільнікі будуць вырабляцца ў Лагойскім райаграпрамэнерга, у Гомельскім аблаграпрамэнерга, на галаўным прадпрыемстве РМП «Белсельгасэнерга». Падлічана, што дзякуючы ажыццяўленню праграмы энергазберажэння летась удалося зэканоміць 13 тысяч 566 тон умоўнага паліва. А гэта — каля 33 мільярдаў рублёў. За дзевяць месяцаў гэтага года эканамічны эфект ад энергазберажэння склаў 16,9 мільярда рублёў.

**Матэрыялы выпуску падрыхтавалі спецыяльныя карэспандэнты «Звязды» Уладзімір ГОЙТАН, Мікалай АМЕЛЬЧАНКА (фота).**



*Удзельнікі выязнога савета РМП «Белсельгасэнерга» аглядаюць устаноўку па гідрапнеўматычнаму прамыванню ацяпляльнай сістэмы, якую сканструявалі і зрабілі спецыялісты Шчучынскага райаграпрамэнерга.*





*Амаль у паўтара раза больш эканамічным з'яўляецца кацёл, які зманціравалі спецыялісты Мастоўскага райаграпрамэнерга.*

ПОГЛЯД

## Мінскі завод шампанскіх він зноў аказаўся заложнікам сітуацыі

Мінскі завод шампанскіх він ў чарговы раз аказаўся заложнікам чыноўніцкай бяздзейнасці. На гэты раз выпуск шыпуча-пеністага напою на мяжы спынення не з-за цэнавага дыспарытэту ці з-за адсутнасці вінаматэрыялаў (хоць іх засталося ўсяго на паўтара месяца, і тады МЗШВ пагражае спыненне як мінімум на паўгода), а з-за няўплаты даўгоў за пастаўленую прадукцыю. Прычым у даўжніках значыцца не хто іншы, як сталічны дзяржгандаль.

Даўно вядома, што запас бяды не чыніць. Асабліва калі гэта датычыцца шампанскага, калі калядна-навагоднія святы не за гарамі. З гэтай нагоды, зыходзячы з практыкі мінулых гадоў, Міністэрства гандлю ў адрас канцэрна «Белхарчпрам» і завода шампанскіх він у канцы верасня спусціла цыркуляр, у якім падрабязна паведаміла план пастаўкі шампанскага на IV квартал 1998 г. па абласцях рэспублікі. Пры гэтым квота на Мінск склала 80,5 тыс. дал, ці 1.000.073 бутэлькі шампанскага. МЗШВ патрабаванні вышэйстаячай інстанцыі да нядаўняга часу выконваў на ўсе 100 працэнтаў. Пакуль не выявіў, што толькі ўпраўленне гандлю Мінгарвыканкама па стану на 4 лістапада завінавацілася заводу шампанскіх він ажно 34 мільярды рублёў, атрымаўшы авансам на перадпнавагодняе захаванне 503 тысячы бутэлек дэфіцытнага цяпер тавару. А тым часам, па словах работнікаў МЗШВ, жыхары сталіцы бесперапынна «бамбяць» завод тэлефоннымі званкамі толькі з адным пытаннем: куды падзелася шампанскае. Канешне, можна растлумачыць народу, што дзяржаўныя мужы клапоцяцца аб іх, і ў канцы снежня кожны жадаючы зможа набыць бутэльку-другую «Савецкага шампанскага» ці «Москвы златоглавой». А можна проста параіць пайсці ў бок базы Партызанскага аптоварознічнага прадпрыемства, куды, згодна з адпаведнай разнарадкай, складзіруецца прадукцыя МЗШВ. Ніхто на прадпрыемстве не можа даць гарантыі, што шампанскае не будзе адстойвацца да самага апошняга моманту, калі стрэлкі гадзіннікаў пачнуць абягаць заключны 24-гадзінны круг, што раней ужо здаралася. Пры гэтым з-за штучнага ажыятажнага попыту на даволі таннае па сённяшніх мерках шампанскае нехта абавязкова пагрэе рукі, ускосна дапамагаючы рознага роду «вінаробам» рэалізоўваць імпартныя сурагаты і дарагія марачныя пеністыя віны.

Яшчэ адна цікавая дэталь. З пачатку назапашвання шампанскага на заводзе ўжо некалькі разоў адбывалася змяненне цэн на ўказаны тавар. А складскія цэны будуць вядомы толькі пад Новы год.

Між тым, на Мінскім заводзе шампанскіх він вырашылі пайсці на непапулярныя меры: перастаць адгружаць бясплатна сваю прадукцыю ўпраўленню гандлю Мінгарвыканкама, бо з-за такога авансавання МЗШВ няма чым выплачваць нават падаткі ў дзяржбюджэт. А яны штодзень складаюць каля 5 мільярдаў рублёў. Сталічным шампаністам крыўдна яшчэ і з-за таго, што дзяржава пакінула іх сам-насам адзін на адзін з непагашаным валютным крэдытам у 1,9 млн. долараў перад Белзнешэканомбанкам, які браўся для закупкі вінаматэрыялаў. Штомесячная пеня за пратэрміноўку зараз складае звыш 2,5 мільярда «зайчыкаў».

У дадатак да ўсіх непрыемнасцяў над МЗШВ «вісіць» пытанне, як узяць яшчэ валютную пазыку ў памеры 2200 тысяч амерыканскіх долараў для аплаты ўжо атрыманых вінаматэрыялаў, якіх хопіць для работы завода толькі да 20 снежня. Размова пра яшчэ адзін валютны крэдыт для закупкі вінаматэрыялаў новага ўраджаю ўжо не ідзе, хоць, па разліках спецыялістаў завода, яго трэба завезці не пазней 1 снежня сёлетняга года, інакш прадпрыемству ў пачатку 1999 года не будзе з чым працаваць і яно стане як мінімум на паўгадавы «прыкол». Пакуль жа барацьба за выжыванне працягваецца. Забіты склады ўпраўлення сталічнага гандлю, а таксама заводскія, на якіх замест 100 тысячы бутэлек ужо скапілася 130. Сітуацыя ў чарговы раз зайшла ў тупік.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Ўсход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.27 | 16.21 | 8.54 |
| Віцебск – | 7.22 | 16.06 | 8.44 |
| Магілёў – | 7.16 | 16.10 | 8.54 |
| Гомель – | 7.10 | 16.11 | 9.01 |
| Гродна – | 7.43 | 16.35 | 8.52 |
| Брэст – | 7.36 | 16.43 | 9.07 |

### МЕСЯЦ

**З 21.51 — 22-ія месяцавыя суткі. Месяц — у сузор'і Льва.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Арсенія, Дзмітрыя, Івана, Максіма, Сцяпана, Неаніла, Праскоўі К. Андрэя, Любаміра, Лявона, Льва**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, у паўднёва-заходніх раёнах невялікі снег. Вецер няўстойлівы, 3—8 м/сек. Тэмпература паветра ў Гродне і Брэсце — 1—3, Мінску, Гомелі — 2—4, Віцебску, Магілёве — 3—5 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак па поўдню рэспублікі невялікі снег. Вецер усходні, 5—10 м/сек. Тэмпература ўначы — 6—11, пры праясненнях да 15, удзень — 2—7; па поўдні рэспублікі ўначы — 3—8, удзень — 0—5 градусаў ніжэй нуля.

**Правление и коллектив Акционерного коммерческого банка «Белкоопбанк» выражает глубокое соболезнование первому заместителю председателя правления банка Кирееву Андрею Евгеньевичу в связи с постигшим его горем — смертью ОТЦА.**



*Карэспандэнт «Звязды» ў абдымках лепшага футбаліста планеты.*

# Убачыць Раналда...

**Год таму журналістка аднаго з вядомых расійскіх выданняў загарэлася марай узяць інтэрв'ю ў «Зубасціка», які на той дзень ужо другі раз запар быў аб'яўлены лепшым футбалістам планеты. Інтэрв'ю ўзяць не ўдалося. Замест гэтага некалькі абзацаў у сваім рэпартажы яна прысвяціла маляўнічаму апісанню таго, як ёй удалося на нейкую хвілю ўхапіцца за трусы форварда «Інтэра», што ішоў з поля ў раздзявалку.**

Вось і ў мяне з'явілася мара хоць бы здалёк, але «ўжывую» ўбачыць зорку сусветнага футбола. Многія даведаўшыся, што я еду на матч Лігі чэмпіёнаў «Спартак»—«Інтэр», казалі: «І ахвота табе цягнуцца такім надвор'ем дзевяцьсот кіламетраў, каб убачыць тое, што можна без праблем паглядзець па тэлевізару». Але ўсё ж мара ёсць мара.

Масква сустрэла няўтульна — холадам і мокрым снегам. У «Лужніках» атрымала сваю акрэдытацыйную картку і сабралася ехаць у Шарамецьева-2, куды чартэрным рэйсам павінен быў прыляцець «Інтэр». Як сказаў мне прадстаўнік Расійскага футбольнага саюза Сяргей Барысаў, самалёт прылятае ў 19.40. «Глядзіце толькі не пераблытайце», — сказаў ён на развітанне. Прыязджаю туды і тут з жахам даведваюся, што «Інтэр» прызямляецца ў «Шарамецьева-1». Добра, што паміж гэтымі двума аэрапортамі пастаянна курсіруе аўтобус (напэўна, для розных разявак, якія могуць лёгка пераблытаць месца свайго вылету ці сустрэчы). Дзіўна было бачыць пустую Vip-залу. Я думала, што дзесяткі, а можа і сотні расійскіх журналістаў будуць сустракаць славутую каманду, многія ігракі якой гэтым летам ззялі на стадыёнах Францыі. Я — прадстаўніца іншай дзяржавы — практычна адна сустракала футбольных зорак — Раналда, Івана Самарана, Ніколу Вентолу, Джанлуку Пальюку... Вось яна, мара. З усіх іх мяне ў першую чаргу цікавіў, вядома ж, «Зубасцік». З перакладчыкам, які быў камандзіраваны для сустрэчы гасцей ад «Спартака», я падышла да форварда Мілана і папрасіла адказаць яго на адно ці два пытанні. Ён бліснуў зубамі: «Добра, але пазней па тэлефоне». Што ж, па тэлефоне дык па тэлефоне.

### «БАЛЧУГ КЕМПІНСКІ»

«Інтэр» спыніўся ў атэлі «Балчуг Кемпінскі», размешчаным на набярэжнай Масква-ракі ў самым цэнтры горада. Тут жа я высветліла, што нумары каштуюць ад 50 да 1800 долараў ЗША ў суткі. Тым часам футбалісты ўжо павячэралі ў рэстаране «Яраслаўль» — повар каманды прыгатаваў ім мачадоні — італьянскія агароднінныя салаты, і збіраліся ісці адпачываць. Нумар Раналда каштаваў 300 долараў — гэтую інфармацыю мне прадаставіў адміністратар атэля. Ён жа паведаміў, што ўся каманда размясцілася на пятым паверсе гатэля. «Але ўсё гэта канфедэнцыяльная інфармацыя», — казаў ён. — Калі хто-небудзь даведаецца, што я распускаю язык, з мяне злупяць скуру.» Па ўсім было відаць, што гэты прадстаўнік атэля — сапраўдны аматар футбола: вочы яго ліхаманкава ззялі, і ён, мусіць, не ведаў, з кім бы яшчэ можна было падзяліцца ўбачаным.

— А які Раналда ў гутарцы? — спытала я ў яго.

— Ён вельмі добры чалавек, але ўсе яму так надакучылі. Ён жа адзін, а вас — журналістаў, фанатаў — вунь колькі! Усе хочуць узяць інтэрв'ю, аўтограф, сувенір які-небудзь — літаральна на часткі рвуць чалавека. Скажу вам толькі, што нумар яму аднаму з каманды наш атэль прадаставіў бясплатна. Калі ён пасля матча яшчэ крыкне: «Я жыву ў «Балчугу» — (Забягаючы наперад заўважу, што спадзяванням адміністратара «Балчуга» на рэкламную кампанію сваёй установы ў выкананні Раналда не суджана было спраўдзіцца — «Зубасцік» пакідаў поле пасля матча моўчкі).

### НАЧНАЯ РАЗМОВА З «ЗУБАСЦІКАМ»

На кватэру да сяброўкі я вярнулася ў гадзіну ночы і ўсё ж, негледзячы на позні час, вырашыла набраць нумар «Балчуга». Начны менеджэр атэля Наталля, папярэдзіўшы, што Раналда можа спаць, злучыла мяне з нумарам футбаліста. Пасля некалькіх працяглых гудкоў чую соннае:

— Si?

Спрабую задаць яму пытанне на англійскай: «Як вы адчуваеце сябе перад матчам са «Спартаком»? У адказ чую нешта незразумелае на партугальскай. Выдаўшы нейкую фразу, Раналда павесіў трубку. Мэнеджэр Наталля прапанавала сваю дапамогу ў перакладзе. Зноў чуецца знаёмае «Si?». Наталля перакладае маё пытанне. Я слухаю адказ:

— Нічога асаблівага не адчуваю. У Маскве я не ўпершыню — год таму я забіваў «Спартаку». Вельмі спадзяюся забіць гол і заўтра.

Больш муштраваць футбаліста я не рашылася — яму трэба было адпачываць.

### АЎТОРАК, 3-ГА

У 13.30 у гасцініцы «Балчуг Кемпінскі» адбылася прэс-канферэнцыя галоўнага трэнера «Інтэра» Луіджы Сімоні, які сціпла папрасіў журналістаў называць яго Джы-Джы.

— Мы прыехалі сюды для таго, каб перамагчы. Мае ігракі на полі — гэта прафесіяналы. Зараз мы змагаемся на двух франтах — і ў нацыянальным чэмпіянаце і ў Лізе чэмпіёнаў. І ў абодвух выпадках змагаемся за перамогу.

— Газеты мусіруюць чуткі аб вашай хуткай адстаўцы.

— Што мусіруюць газеты — гэта іх справа. Я чалавек калектыву і ўмею як выйграваць, так і прайграваць. Што датычыць адстаўкі — пайду, застануся — гэта зараз няважна. Сёння мой галаўны боль — «Спартак», заўтра — «Мілан».

Маскоўскія журналісты тым часам (прынамсі, значная частка іх) не так слухалі сіньёра Джы-Джы, як налягалі на «шведскі» стол. Яшчэ не закончылася прэс-канферэнцыя, а на сталах засталіся толькі пустыя талеркі ды рэшткі салатаў.

### «СПАРТАК» СПАДЗЯЕЦЦА НА ПЕРАМОГУ

У 17 гадзін вечара ў прэс-цэнтры «Лужнікоў» адбылася сустрэча з адным з трэнераў «Спартака» Сяргеем Самохіным.

— Настрой самы баявы, і мы гатовы паказаць добры, якасны футбол, — сказаў С. Самохін. — Галоўная наша праблема, як і ў «Інтэра», — дрэннае надвор'е, якое можа перашкодзіць паказаць хуткі і агрэсіўны футбол.

— Што вы рыхтуеце персанальна для Раналда?

— Персанальна трымаць яго ніхто не будзе — ён майстар высокага класа. Мае вялікую хуткасць. Баюся, з ім будзе вельмі складана. Галоўнае — не даць Раналда аператыўнага прастору. Калі б яго не было ў саставе, тактычна ігру мы будавалі б па-іншаму. «Інтэр» з Раналда і без яго — зусім розныя каманды. «Спартак» у сваёй гульні нічога мяняць не будзе, проста на гэты раз мы пастараемся пазбегнуць памылак.

### ТРЭНІРОЎКА Ў «ЛУЖНІКАХ»

У 18 гадзін да стадыёна пад'ехаў аўтобус аўтакамбіната N3, які прывёз «Інтэр» на трэніроўку. Паглядзець, як яна праходзіць, сабралася некалькі соцень чалавек. Сярод іх былі журналісты, фатографы, прадстаўнікі тэлебачання і проста людзі з вуліцы — фанаты. Футбалісты займаліся фізічнымі практыкаваннямі, бегалі, ігралі ў «квадрацік». Раналда быў вельмі вясёлым, узрушаным, гарэзлівым. Увесь час спрабаваў паваліць на зямлю свайго партнёра Нікола Вентала. А ў час заняткаў з мячом, нечакана нанёсшы ўдар, трапіў у самую «дзевятку» — ніжэй пояса галкіперу Джанлука Пальюку, на што той памахаў кулаком. Па ўсім было відаць, «Інтэр» — у сапраўды баявым настроі.

На трэніроўку «Спартака» ў Тарасаўцы журналістаў не дапусцілі.

Цікавая дэталь: па дарозе на трэніроўку і назад у атэль практычна ўсе футбалісты «Інтэра» трымалі ў руках сотавыя тэлефоны. Быў ён і ў руках Раналда, які на маіх вачах, ва ўсякім разе, разы два, нешта «мурлыкаў» у трубку: відаць, перадаваў прывітанне з заснежанай Масквы сваёй каханай Сюзане Вернер.

Узяць інтэрв'ю ў каго-небудзь з ігракоў у гэты момант аказалася немагчымым. Нікола Вентала, да якога я звярнулася з пытаннем, убачыўшы ўключаны дыктафон, катэгарычна запярэчыў: «No, No! Да гульні нам забаронена даваць інтэрв'ю».

### 4 ЛІСТАПАДА — СЕРАДА, 19.40

У гэты момант па свістку швейцарскага суддзі Урса Маера пачалася гульня, тысячы гледачоў на трыбунах стадыёна, мільёны балельшчыкаў у Расіі, Беларусі, на Апенінах сачылі за ходам гэтага цікавага паядынку. У ложы для ганаровых гасцей у гэты халодны вечар «Спартак» падтрымлівалі прэм'ер-міністр Расіі Яўген Прымакоў і мэр Масквы Юрый Лужкоў. Білеты на матч, трэба сказаць, былі нятанныя — ад 85 да 350 расійскіх рублёў (каля чатырох мільёнаў беларускіх). Гульню вы бачылі, а тыя два моманты — калі «Спартак» забіў гол і за тры хвіліны да канца матча прапусціў — словам і не перадасі, гэта трэба было перажыць на трыбунах — ад трыумфавання, да поўнага расчаравання. «Раздолбаи: Робсона — на плантацию!» І ўсё ж самыя верныя фаны спявалі: «Врагу не сдается наш гордый «Спартак».

Пасля матча абодва трэнеры мелі процілеглы настрой. Алег Раманцаў толькі на хвіліну зайшоў у прэс-цэнтр: «Прабачце, вы самі ўсё бачылі. Без каментарыяў». Трэнер «Спартака» з гэтымі словамі пакінуў памяшканне, на вачах яго былі слёзы.

Луіджы Сімоні блішчэў, як начышчаны самавар: «Гэта вельмі добры вынік...

Пасля гульні футбалісты зноў адправіліся ў атэль, дзе адзначылі заваяванае ачко добрай вячэрай і нават выпіўкай. Праўда, толькі шампанскім. Настрой ў італьянскіх футбалістаў быў такі, што здавалася, быццам вязуць яны з сабой не адно, а ўсе тры ачкі. Раналда перакуліў у сябе невялікі фужэрчык пеністага напітку, заказаў спявачцы песню на партугальскай мове і расслаблена ўсміхаўся. У гэты момант я рашылася падысці да яго і ўзяць аўтограф для чытачоў «Звязды». «Зубасцік» папрасіў напісаць мяне слова на беларускай мове і пасля непрацяглай «трэніроўкі» вывеў назву нашай газеты. Я папрасіла яго падзяліцца ўражаннямі аб гульні.

— Вельмі задаволены. Лічу, што лік мог бы быць і іншым, непрыемным. «Спартак» — моцная каманда, гуляць з ёй вельмі складана. Не ведаю, што было б, калі б мы прайгралі. Не хачу нават гэтага ўяўляць сабе.

— Вы не расстроіліся тым, што самі не забілі гол?

— Не лічу галоўным у нейкай канкрэтнай гульні забіваць гол. Ведаю, што мне ўдасца зрабіць гэта ў наступных гульнях.

— Дзякую вам за гульню, за інтэрв'ю — і чакаем вас у наступным годзе ў Мінску.

Варатар гасцей Джанлука Пальюка ў вечарынцы ўдзелу не прымаў. Па агульнаму меркаванню, у гэтым матчы ён быў лепшым на полі. Вось яго думка.

— Гэта быў вельмі важны матч, нават рашаючы, пасля якога ў нас засталіся добрыя шанцы прасунуцца далей ў Лізе чэмпіёнаў. Мне вельмі крыўдна, бо такіх галоў, які прапусціў сёння, я не прапускаў ні разу ў сваёй кар'еры, нават на трэніроўках. Праўда, лічу, што мне ўдалося рэабілітаваць сябе, калі адбіў вельмі каварны мяч, які зрэзаў у свае вароты Паула Соўза. Я ўжо папрасіў касету ў сваіх знаёмых з тэлебачання з запісам гэтага матча, каб яшчэ і яшчэ раз праглядваць яго цікавыя моманты.

Вечарынка футбалістаў «Інтэра» працягвалася хвілін трыццаць. Заўтра іх чакаў самалёт і цёплы, сонечны «Мілан». Мяне чакаў Беларускі вакзал, халодны вагон цягніка і слотны, але родны Мінск.

**Вольга РАМАНЮК.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* «ДЛЯ ВАС» — 32-44-12.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі. Матэрыялы, пазначаныя значком носяць рэкламны характар. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100.989. Індэкс 63850.
Зак. № 6515.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12